Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Связь советских органов между собой и массами — основа советского строительства.

# БЮЛЛЕТЕНЬ

## СОВЕТА НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ БССР



2-й год издания № 12 (21) 1 ОКТЯБРЯ 1926 г.

ИЗДАНИЕ СНК БССР
МИНСК—1926 г.



Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Связь советских органов между собой и массами — основа советского строительства.

# БЮЛЛЕТЕНЬ

## СОВЕТА НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ БССР

2-й год издания № 12 (21) 1 октября 1926 г.



Издание СНК БССР
Минск—1926 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.



тир. 3200 экз.

## Частка неофіцыйная.



---

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

АБ ПАРАДКУ ПРАВЕРКІ ВЫКАНАНЬНЯ РАШЭНЬНЯЎ II-ое СЭСІІ ЦВК БССР VI-га СКЛІКАНЬНЯ АД 15 ЛІПЕНЯ 1924 г. Ў ЧАСТЦЫ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ АПАРАТАЎ САВЕЦКІХ І КООПЕРАТЫЎНЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ І ЎСТАНОЎ Б. С. С. Р.

Дзеля таго, што прадугледжаны пунктам 7-м падзелу І-га пастановы 2-е Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня тэрмін пераходу на беларускую мову апаратаў Сэкратарыяту ЦВК, Кіраўніцтва Справамі Саўнаркому, Наркамасьветы і Наркамзему скончыўся 15-га ліпеня 1925 году, Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, Наркамюста, Нар. Кам. Соц. Забясьпекі і Упаўнаважанага Нар. Кам. Пошты і Тэлеграфу—15 ліпеня 1926 г., а ўсіх іншых ведамстваў, організацый і установ тэрмін пераходу дзелаводзтва на беларускую мову канчаецца 15 ліпеня 1927 году,—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Праверыць ў двухмесячны з дню апублікаваньня гэтае пастановы тэрмін фактычнае выкананьне вышэйпаказанае пастановы 2-е Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня аб пераходзе на беларускую мову дзелаводзтва ў тых цэнтральных установах і організацыях і іх мясцовых органах, для якіх тэрміны пераходу ўжо скончыліся.

2. Праверыць да 1-га студзеня 1927 году ступень падрыхтаванасьці і правадзімыя мерапрыемствы па пераходу на беларускую мову дзелаводзтва ўва ўсіх тых цэнтральных установах і організацыях і іх мясцовых органах, тэрмін пераходу якіх на беларускую мову канчаецца 15-га ліпеня 1927 году.

3. Адначасова і ў тыя самыя тэрміны ў паказаных у пунктах 1 и 2 гэтае пастановы ўстановах і організацыях праверыць ступень прыстасаванасьці іх да абслугоўваньня іншых нацыянальнасьцяй на іх роднай мове (яўрэйскай, польскай, расейскай).

4. У працу па праверцы ўваходзіць:

а) высьвятленьне дзеяньняў і мерапрыемстваў, прадпрынятых кіраўнікамі ўстаноў і організацый да ажыцьцяўленьня правядзеньня беларусізацыі і прыстасаваньня апаратаў да абслугоўваньня іншых нацыянальнасьцяй БССР;

б) праверка ступені ведаў і вывучэньня супрацоўнікамі ўстаноў і організацый беларускае мовы;

в) праверка ступені фактычнай забясьпечанасьці апаратаў устаноў і організацыяў работнікамі, якія ведаюць мову іншых нацыянальнасьцяй;

г) праверка выкананьня адміністрацыяй установ і організацый пункту 13, падзелу І пастановы 2-е Сэсіі ЦВК БССР VI скліканьня аб няпрыйманьні на службу ў дзяржаўныя і кооператыўныя ўстановы і організацыі, тэрмін беларусізацыі апаратў якіх ўжо скончыўся, асоб не валадаючых беларускаю і рускаю мовай, а ў неабходных выпадках мовай іншых нацыянальнасьцяй (гл. пункт 11-ты і ўвагу да яго падзелу І-га пастановы 2-е Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня);

д) праверка выкананьня ў цэнтры і на мясцох пункту 9-га падзелу І-га пастановы 2-е Сэсіі ЦВК БССР VІ-га склікаsucceeds аб штампах і пячатках і пастановы Савету Народных Камісараў БССР ад 25 сьнежня 1924 г. аб шыльдах і надпісах у дзяржаўных, профэсіянальных і грамадзкіх установах і організацыях.

5. Праверцы ведаў беларускае мовы падлягаюць усе без выключэньня работнікі разумовае працы, незалежна ад займаемых імі пасад, працуючыя ў ведамствах, установах, організацыях, гаспадарчых, гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах БССР.

*Увага 1.* Рабочыя, непасрэдна занятыя ў вытворчасьці і асобы фізычнае працы, якія абслугоўваюць ведамствы, установы, організацыі і прадпрыемствы ў якасьці: пасланцоў, прыбіральнікаў, вартаўнікаў, дворнікаў, выпальшчыкаў, фурманоў, канюхоў, шофэраў і чорнарабочых,—праверцы ведаў беларускае мовы і іншых не пядлягаюць.

*Увага 2.* Асобы, якія заняты па найму ў гандлёвых і прамысловых організацыях і ўстановах і не падыходзяць пад катэгорыі, пераліčаныя ва ўвазе 1-ай пункту 5-га гэтае пастановы (прадаўцы, прыказчыкі, агэнты, закупшчыкі, дзесятнікі і ім падобныя) праверцы падлягаюць.

*Увага 3.* Парадак праверкі рабочых і сялян выбраных альбо у парадку вылучэнства прызначаных на службу ў савецкія і кооператыўныя організацыі і ўстановы, а таксама ўмовы вывучэньня імі беларускае мовы, устанаўляецца асобнай інструкцыяй Нацкамісіі ЦВК БССР.

6. Праверка праводзіцца спэцыяльнымі праверачнымі камісіямі, якія організуюцца для цэнтральных устаноў і організацый Камісіяй ЦВК БССР па ажыцьцяўленьню нацыянальнай політыкі, а для акруговых, раённых і вясковых устаноў і організацый—акруговымі нац камісіямі.

7. У склад камісіі па праверцы цэнтральных устаноў і організацый уваходзяць: упаўнаважаны Нацкамісіі ЦВК (як старшыня праверачнай камісіі), прадстаўнікі: Народнага Камісарыяту Працы, Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, адміністрацыі правяраемае установы ці організацыі і адпаведнага мясцкому.

У такім самым парадку з прадстаўніцтвам акруговых устаноў і організацый утвараюцца камісіі па праверцы акруговых устаноў і організацый.

8. У склад камісій па праверцы раённых устаноў і організацый ўваходзяць: прадстаўнік акруговае нацкамісіі (як старшыня праверачнай камісіі), прадстаўнік Раённага Выканаўчага Камітэту і прадстаўнік мясцовых профорганізацый.

Гэтая самая камісія правярае ўсе установы і організацыі на абшары усяго раёну.

9. З мэтаю найбольшага посьпеху і пэўнасьці праверкі праверачныя камісіі прылучаюць да свае работы, у меру патрэбы, компэтэнтных асоб і знаўцаў.

10. У сваёй працы праверачныя камісіі кіруюцца інструкцыямі, распараджэньнямі і паказаньнямі Нацкамісіі ЦВК БССР.

11. Вынікі праверкі цэнтральных устаноў і оргазіцый і сваё заключэньне праверачная камісія запісвае ў пратакол, які прадстаўляе на зацьверджаньне Нацкамісіі ЦВК БССР. Пастановы апошняе зьяўляюцца канчатковымі і безадкладна праводзяцца ў жыцьцё ўсімі установамі і організацыямі, якіх яны тычацца.

12. Вынікі праверкі акруговых, раёнпых і вясковых устаноў і організацый праверачныя камісіі ў пратакольным выглядзе, разам з сваім заключэньнем і заключэньнем адпаведнага Райвыканкому, прадстаўляюць на разгляд акруговых нацкамісій, пастановы якіх уваходзяць у сілу і падлягаюць неадкладнаму выкананьню па зацьверджаньні іх Прэзыдыумам Акрвыканкому.

Пастанова Прэзыдыуму Акрвыканкому можа быць адменена альбо зьменена Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, па прадстаўленьню Цэнтральнае Нацкамісіі.

Абскарджаньне перад Прэзыдыумам ЦВК БССР пастановы Прэзыдыуму Акрвыканкому ня спыняе яго выкананьня.

13. Да кіраўнікоў ведамстваў, устаноў і організацый, якія не праявілі дзейнасьці альбо невыстарчаюча праявілі яе ў справе ажыцьцяўленьня дырэктыў па нацыянальнай політыцы, Прэзыдыумам ЦВК БССР, а ў акругах і раёнах—Прэзыдыумамі Акруговых Выканаўчых Камітэтаў ужываюцца, па прадстаўленьню Нацкамісіі ЦВК БССР і Акруговых Нацкамісій, наступныя меры ўплыву:

а) папярэджаньне;
б) выгавар;
в) адданьне пад дысцыплінарны суд;
г) зьмяншчэньне на ніжэйшую пасаду;
д) здыманьне з адказнае работы на тэрмін;
е) здыманьне з адказнае работы.

14. Меры ўплыву ў адносінах да супрацоўнікаў правяраемых устаноў і організацый ужываюцца на падставе фактаў, устаноўленых праверачнымі камісіямі (яўнае адмаўленьне ад вывучэньня беларускае мовы, ухіленьне ад вывучэньня беларускае мовы і г. д.). Гэта тычыцца і тых супрацоўнікаў, якія павінны абслугоўваць іншыя нацыянальнасьці.

15. У паказаных у папярэднім пункце выпадках, у адносінах да супрацоўнікаў устаноў і організацый могуць ужывацца наступныя меры:

а) папярэджаньне аб звальненьні, з прызначэньнем пэўнага тэрміну дзеля вывучэньня беларускае мовы;
б) звальненьне ад службы.

*Увага.* Пры прызначэньні меры ўплыву ў адносінах да супрацоўнікаў устаноў і організацый павінны прымацца пад увагу прычыны невывучэньня, альбо слабага вывучэньня беларускае мовы.

16. Згодна пункту 13, падзелу І-га пастановы 2-ое Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня, устанавіць, што адміністрацыя ўстаноў і організацый, тэрмін пераходу апаратаў якіх на беларускую мову ужо скончыўся, не павінна прымаць на службу новых супрацоўнікаў, не валадаючых здавальняюча беларускай мовай. У выключных выпадках належыць кіравацца ўвагаю да пункту 13, падзелу І-га пастановы 2-ое Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня.

17. З прычыны набліжэньня тэрміну (15 ліпеня 1927 году) аканчальнага пераходу паказаных у пункце „В“ арт. 7, падзелу І-га пастановы 2-ое Сэсіі ЦВК БССР VI-га скліканьня ведамстваў, устаноў і організацый БССР на беларускую мову і ў мэтах забесьпячэньня своечасовага і безбалючага правядзеньня беларусізацыі ў гэтых ведамствах, установах і організацыях,—прапанаваць кіраўнікам іх устрымоўвацца ў далейшым ад прыманьня на службу новых супрацоўнікаў, якія не валадаюць беларускай мовай. Гэтая мера ня ўжываецца ў адносінах да асоб, звальняемых ў бестэрміновы водпуск з Чырво-

нае Арміі, якія пры паступленьні на службу ў вышэйпамянёныя ведамствы, установы і організацыі абавязваюцца ў шасьцімесячны тэрмін вывучыць беларускую мову.

18. Агульнае кіраўніцтва праверачнаю работаю і нагляд за пасьпешным, плянамерным і правільным ходам яе ўскласьці на Камісію ЦВК БССР па ажыцьцяўленьню нацыянальнай політыкі.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

18 верасьня 1926 году.
г. Менск.

---

## Інструкцыя Камісіям па праверцы беларусізацыі ўстаноў і ведаў беларускай мовы супрацоўнікамі ўстаноў БССР.

Пры ажыцьцяўленьні пастановы ЦВК і СНК ад 18-га верасьня 1926 году, прапануецца ўсім праверачным камісіям няўхільна прытрымлівацца наступнай інструкцыі:

1. Пункт „а“ § 4 пастановы ЦВК і СНК ад 18 верасьня трэба разумець:

а) ці быў дан і калі загад аб пераводзе дзелаводзтва падлеглых ім устаноў на беларускую мову і ці быў дзеля гэтага складзен плян пэўных мерапрыемстваў;

б) ці былі організаваны курсы альбо гурткі па вывучэньню беларускай мовы і ці быў нагляд з боку кіраўнікоў за дзейнасьцю гэтых курсаў і гурткоў;

в) ці былі выпадкі (колькі іх было) замены супрацоўнікаў ня ведаючых беларускай мовы асобамі, якія мовай валадаюць;

г) ці прыймаліся на пасады асобы не валадаючыя беларускай мовай пасьля сканчэньня тэрміну пераводу дзелаводзтва ўстановы на беларускую мову;

д) ці скліказіся па загаду кіраўніка сходы і ці рабіліся на іх тлумачэньні асноў нацполітыкі наогул і беларусізацыі ў прыватнасьці;

е) ці быў кантакт у працы па ажыцьцяўленьні нацполітыкі і беларусізацыі апарату паміж кіраўніком установы і мясцкомам і ячэйкай КПБ;

ж) што зроблена кіраўніком установы да прыстасаваньня апарату для абслугоўваньня патрэбаў яўрэйскай, польскай і іншых нацыянальнасьцяй;

з) што яшчэ зроблена кіраўніком установы ў сэнсе ажыцьцяўленьня нацполітыкі і правядзеньня беларусізацыі, не прадугледжанае вышэйпамянёнымі пунктамі.

2. Тэхнічная праверка праводзіцца наступным парадкам:

а) камісія правярае кожнага супрацоўніка паасобку, прычым выяўляе яго веды па беларускай мове шляхам: дыктоўкі, чытаньня, перакладу, размовы і г. д., а таксама выяўляе на колькі ён знаёмы з асновамі нацполітыкі Компартыі і Савецкай улады;

б) праверка ведаў адказных працаўнікоў праводзіцца шляхам пэрсональнай размовы з кожным працаўніком паасобку.

3. Перад пачаткам працы па праверцы тэй ці іншай установы прадстаўнік праверачнай камісіі робіць на агульным сходзе правяраемых інформацыйнае паведамленьне аб мэтах і задачах праверкі.

Па сканчэньні праверкі праверачная камісія на такім-жа самым сходзе робіць інформацыйны даклад аб выніках свае працы.

4. Пры праверцы кожнага паасобнага працаўніка праверачная камісія павінна запісаць у пратакол пасаду, якую займае правяраемы, яго нацыянальнасьць, год нараджэньня, партыйнасьць, колькі год жыве ў Беларусі, колькі часу працуе ў гэтай установе, якія ведае мовы.

5. Вылучэнцы цяпер не правяраюцца, але кіраўнікі ўстаноў павінны скласьці для іх спрыяючыя ўмовы, каб яны мелі магчымасьць вывучыць беларускую мову (забясьпечыць іх кнігамі і падручнікамі, калі яны ня маюць магчымасьці купіць за свае сродкі, даць ім вольны час для вывучэньня і г. д.).

6. Пры праверцы ўстаноў і організацый у сельскіх мясцовасьцях, районныя праверачныя камісіі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на нацыянальныя сельскія і местачковыя саветы: яўрэйскія, польскія, расейскія, латыскія, нямецкія і інш. Трэба высьвятліць: а) колькасьць асноўнага насельніцтва даннае нацыянальнасьці; б) колькасьць іншых нацыянальнасьцяй абслугоўваемых данным нацыянальным сельскім, альбо местачковым саветам; в) склад нацыянальнага савету па нацыянальнасьцях; г) у якой меры забясьпечаны інтарэсы насельніцтва асноўнае нацыянальнасьці ў сэнсе абслугоўваньня яе на роднай мове; д) у якой меры забясьпечаны інтарэсы насельніцтва іншых нацыянальнасьцяй даннага нацсавету ў сэнсе абслугоўваньня яго на роднай мове; е) на якой мове і ў якой меры вядзецца дзелаводзтва ў данным нацсавеце; ж) адносіны насельніцтва асноўнае нацыянальнасьці да свайго савету і адносіны да яго іншых нацыянальнасьцяй, насяляючых тэрыторыю даннага савету; з) ці ёсьць дасягненьні і якія ў агульнай працы нацсавету ў зьвязку з яго ўтварэньнем; і) ці маюцца перашкоды і труднасьці ў працы нацсавету і якія.

7. У зьвязку з утварэньнем у БССР нацыянальных народных судоў, праверачным камісіям належыць таксама абавязкова праверыць практыку іх працы, забясьпечанасьць адпаведнымі супрацоўнікамі, наколькі яны задавальняюць абслугоўваемае насельніцтва і якія недахопы і перашкоды сустракаюцца ў іх працы.

8. Пры складаньні праверачных камісій пажадана, каб ўсе сябры ведалі беларускую мову і каб у складзе камісій былі асобы, валадаючыя мовамі іншых нацыянальнасьцяй, асабліва яўрэйскай і польскай, на выпадак патрэбы праверкі супрацоўнікаў, якія вылучаны ўстановамі дзеля абслугоўваньня насельніцтва яўрэйскай, польскай і іншых нацыянальнасьцяй.

9. У выпадку, калі пры вырашэньні таго ці іншага, не дасягаюць згоды—супярэчнасьці гэтыя вырашаюцца—у Менску Цэнтральнай Нацкамісіяй, а ў акругах і районах—акруговай нацкамісіяй.

10. Пастановы праверачных камісій могуць быць не здаволенымі абскарджаны: у районах у двухтыднёвы тэрмін у акруговую нацкамісію праз райвыканком, у акруговых гародох у тыднёвы тэрмін у акруговую нацкамісію праз праверачную камісію і ў Менску ў тыднёвы тэрмін у Цэнтральную Нацкамісію праз праверачную камісію. Пастанова акруговай нацкамісіі можа быць у той-жа тэрмін абскарджана ў Прэзыдыум Акрвыканкому, праз акруговую нацкамісію, а пастанова Прэзыдыуму Акрвыканкому, альбо Цэнтральнай Нацкамісіі ў двухтыднёвы тэрмін і такім-жа парадкам—у Прэзыдыум ЦВК.

11. Праверачныя Камісіі павінны мець на ўвазе, што іхняя работа будзе мець посьпех і дасьць пажаданыя вынікі толькі ў тым выпадку, калі яна будзе прасякнута атмосфэрай давер'я з боку правяраемых, таварыскага падыходу да іх і ставарэньня наўкола гэтай працы спрыяючых адносін з боку савецкай грамадзкасьці.

Старшыня Нацкамісіі ЦВК БССР **З. Чарнушэвіч.**

Адказны Сэкратар Нацкамісіі ЦВК БССР **Ш. Будзін.**

18 верасьня 1926 г.
г. Менск.

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ШЛЯХАВАМУ БУДАЎНІЦТВУ СЕЛЬСКАГА ЗНАЧЭНЬНЯ.

У мэтах увязкі з агульна-дзяржаўным шляхавым будаўніцтвам усё больш пашыраючагася прыватнага пачыну мясцовага насельніцтва ў парадку самаахвотнасьці па правядзеньню ў спраўны выгляд мастоў і шляхоў сельскага значэньня, таксама ў мэтах утварэньня плянавасьці ў гэтай працы, для дапамогі і накіраваньня гэтага пачыну да хутчэйшага аднаўленьня шляхоў мясцовага значэньня, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР, у зьмену пастановы СНК ад 5/V г. г., п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Дазволіць сельскім і местачковым саветам уцягваць працаздольнае насельніцтва, пражываючае ў сельскіх мясцовасьцях і ў мястэчках, аб'яднаных адпаведным сельскім альбо местачковым саветам, у працу па ўтрыманьню, рамонту і адбудаваньню мастоў і дарог сельскага значэньня. Права ўцягваньня сельскага і местачковага насельніцтва ў дарожныя работы ажыцьцяўляецца пасьля папярэдняга абмеркаваньня гэтага пытаньня на агульных сходах грамадзян адпаведных мясьцовасьцяй. Дарожная работа выконваецца насельніцтвам, як асабова, так і з маючайся ў яго рабочай жывёлай.

2. Парадак удзелу у шляхавай працы устанаўляецца па пастанове агульных сходаў грамадзян адпаведнага сельскага альбо местачковага савету, прычым пастанова, прынятая большасьцю галасоў і пацьверджаная належным Райённым Выканаўчым Камітэтам, зьяўляецца абавязковай для ўсяго насельніцтва таго ці іншага залюдненага пункту.

*Увага.* Агульныя сходы грамадзян проводзяцца ў кожным залюдненым пункце, паасобныя дробныя залюдненыя пункты (хутары, пасёлкі) яднаюцца ў адзін агульны сход па пагляду і пастанове адпаведнага сельскага ці местачковага савету.

3. Перад агульнымі сходамі грамадзян залюдненых пунктаў сельскай мясьцовасьці, сельскія і местачковыя саветы намячаюць:

а) парадак уцягненьня насельніцтва ў работы:

б) кола асоб, падлягаючых да аслабаненьня ад работы (па хваросьці, альбо па ўзросту);

в) агульную колькасьць працоўных дзён, патрэбных дзеля выкананьня кожнай конкрэтнай работы;

г) час утварэньня работы;

д) райён работы;

е) прымацаваньне вучасткаў шляхоў да паасобных вёсак у тых выпадках, калі сельскі ці местачковы савет яднае некалькі пасёлкаў, альбо вёсак, і накіроўвае адпаведны матар'ял на разгляд агуль-

нага сходу грамадзян сельскай мясцовасьці, а затым на зацьверджаньне Райённага Выканаўчага Камітэту.

4. Дарогі і масты сельскага значэньня, праходзячыя праз дзяржаўныя лясы і абслугоўваючыя, галоўным чынам, патрэбы лясных арганізацый (дарогі для вывазу лесу і інш.), адбудоўваюцца і рамантуюцца за кошт арганізацый, якія вядуць распрацоўку і эксплёатацыю лясных плошчаў.

5. Дарогі і масты, якія праходзяць праз лясныя масывы, злучаюць залюдненыя пункты і абслугоўваюць, галоўным чынам, патрэбы мясцовага насельніцтва, уносяцца ў агульны плян дарожнага будаўніцтва сельскага альбо местачковага савету.

6. Рамонт дарог і мастоў, якія праходзяць праз землі савецкіх і колектыўных гаспадарак, а таксама сталы нагляд за становішчам гэтых дарог і мастоў, ускладаецца на гэтыя гаспадаркі.

7. На акруговыя, райённыя выканаўчыя камітэты, сельскія і местачковыя саветы ўскладаецца поўная адказнасьць за своечасовую і правільную арганізацыю работы, а таксама тэхнічную падрыхтоўку і правядзеньне яе, фактычнае скарыстаньне прымаючага ўдзел ў працы насельніцтва сельскімі і мэстачковымі саветамі павінна мець месца толькі па сканчэньні арганізацыйнай і тэхнічнай падрыхтоўкі гэтай работы. Агульнае нагляданьне за шляхавай работай у межах акругі, у парадку гэтай пастановы, ускладаецца на акруговыя і райённыя выканаўчыя камітэты. Уся адказнасьць за добрае становішча дарог і мастоў сельскага значэньня ўскладаецца на сельскія і местачковыя саветы.

8. Пры ўтварэньні шляхавай работы, у парадку ўдзелу ў рабоце мясцовага насельніцтва, патрэбныя матар'ялы і тэхнічная дапамога даецца за кошт Акруговага і Райённага Выканаўчага Камітэту.

9. Дазволіць бясплатны водпуск патрэбных для азначнага шляхавага будаўніцтва матар'ялаў з лясоў агульна-дзяржаўнага і мясцовага значэньня (бліжэйшых да месца працы), а таксама бясплатную здабычу каменьня, чвыру і гліны, як з прылягаючых да шляхоў агульна-дзяржаўных і мясцовых кар'ераў і рэзэрваў, таксама і з іншых раёнаў іх месцазнахаджэньня.

10. З 1926/27 г. (опэрацыйнага) акруговым выканаўчым камітэтам устанавіць у складзе мясцовага бюджэту выдатак на шляхавае будаўніцтва, які забясьпечыў-бы, як утрыманьне і рамонт шляхоў акруговага і райённага значэньня, таксама і дапамогу сельскім і местачковым саветам у правядзеньні мерапрыемстваў па ўцягненьню сельскага насельніцтва да працы па шляхаваму будаўніцтву сельскага значэньня.

11. Даручыць Народнаму Камісарыяту Ўнутраных Спраў, па ўзгадненьню з Народным Камісарыятам Земляробства, Народным Камісарыятам Грашовых Спраў БССР і Упаўнаважным Народнага Камісарыяту Шляхавых Зносін пры СНК БССР, выдаць у тэрміновым парадку інструкцыю па ўжываньню гэтай пастановы.*)

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

18 верасьня 1926 г.
г. Менск.

*) Гл. Інструкцыю на стар. 18.

## Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі

### АБ ПАРАДКУ РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ ЛЕСУ НА ПНІ Ў 1926-27 ОПЭРАЦЫЙНЫМ ГОДЗЕ.

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Лес на пні выдаваць:

а) у плянавым парадку (разьмеркаваньня і замацаваньня) і

б) з таргоў.

2. У парадку разьмеркаваньня, драўніна выдаецца:

а) мясцоваму працоўнаму насяленьню па норме;

б) на грамадзкія патрэбы (на дарогі мясцовага значэньня, школы, больніцы, хаты-чытальні, лазьні і сьвірны);

в) мясцовым дзяржаўным установам, якія знаходзяцца на дзяржаўным або на мясцовым бюджэце, а таксама на гаспадарчым разьліку;

г) саюзам жылішчна-будаўнічае коопэрацыі, акруговым выканаўчым камітэтам і гаспадарчым органам для патрэб рабочага будаўніцтва;

д) аб'яднанай у рэспубліканскія цэнтры саматужна-прамысловай па пераапрацоўцы драўніны коопэрацыі;

е) аддзелу гаспадарчых загатовак Лясной Управы ў парадку палажэньня аб гаспадарчых загатоўках і па асобных заданьнях;

ж) гаспадарчым лясным трэстам, транспарту і прадпрыемствам выканаўчых камітэтаў, пераапрацоўваючым драўніну.

3. Прыватныя прадпрыемствы могуць атрымоўваць драўніну ў парадку разьмеркаваньня толькі паводле пастановы Экономічнае Нарады БССР.

4. У парадку замацаваньня драўніна можа выдавацца: прадпрыемствам Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР, Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін і Выканаўчых Камітэтаў, маючым на тэрыторыі БССР працуючыя заводы, асноўнаю задачаю якіх зьўляецца хімічная або мэханічная апрацоўка драўніны.

*Увага.* Для ажыцьцяўленьня памянёнае пастановы Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР, Упаўнаважаны Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін пры СНК БССР і акруговыя Выканаўчыя Камітэты павінны падаць у Народны Камісарыят Земляробства заяўкі аб замацаваньні лесасек за знаходзячыміся пад іх ведамам прадпрыемствамі, адпаведна абгрунтаваўшы гэтыя заяўкі. Народны Камісарыят Земляробства складае сводку гэтых заявак, намячае район лесасек, якія павінны быць замацаваны за тым або іншым прадпрыемствам, тэрмін іх замацаваньня, і ўносіць праз Дзяржаўную Плянавую Камісію на зацьверджаньне Экономічнае Нарады БССР.

5. Дубовыя і ясянёвыя лесасекі ў дубова-ясянёвай гаспадарцы замацоўваюцца ў парадку, устаноўленым пастановаю Экономічнае Нарады БССР за 22 лютага 1926 г.

6. Уся драўніна, якая засталася пасьля разьмеркаваньня і замацаваньня, прадаецца з таргоў усім жадаючым.

7. Цэнтральная Гандлёвая Лясная Камісія, утвораная пастановаю Экономічнае Нарады за 23 жніўня г. г., пры разьмеркаваньні лесасечнага фонду павінна мець на ўвазе:

а) патрэбы мясцовага насяленьня, вылічаючы іх па фактычнай выдачы ў бягучым годзе, з павялічэньнем да 30 проц. і іншыя мясцовыя патрэбы;

б) патрэбы мясцовае і рэспубліканскае прамысловасьці, прадпрыемстваў Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін на тэрыторыі БССР, жылішчнае коопэрацыі, „Украінлесу“, „Гомлесу“ і „Дзьвіналесу“.

*Увага*. Рэшта драўніны, якая засталася загатоўшчыкам лесу з лесасек, перададзеных ім іншымі спажыўцамі для распрацоўкі, павінна быць уключана ў рахунак іх заявак.

8. Драўніну ў 1926/27 опэрацыйным годзе дзяржаўным спажыўцом у плянавым парадку выдаваць па продажных цэнах 1925/26 г. Дазволіць, у паасобных выпадках, Цэнтральнай Гандлёвай Лясной Камісіі павялічваць цэны ў тых мясцох, дзе гэтыя цэны меншыя сярэдніх продажных, да разьмераў сярэдняе гандлёвае наддачы ў даннай акрузе.

9. Лес на грамадзкія патрэбы і жылішчнай коопэрацыі прадаваць па таксах 1924 году, пры гэтым драўніну для жылішчнай коопэрацыі аплачваць паводле існуючых правіл.

10. Драўніна на пні ў 1926/27 годзе прадаецца з таргоў па продажнай цане 1925/26 году.

11. У выпадках, калі пастаўленая на таргі драўніна ня будзе прададзена, дазволіць Цэнтральнай Гандлёвай Лясной Камісіі зьмяншаць ацэначны кошт жывога лесу на паўторныя таргі да 50 проц., а на мёртвы лес ня менш такс 1924 г.

12. Для скарачэньня ліку загатоўшчыкаў лесу, права на распрацоўку драўніны, якая выдаецца ў парадку разьмеркаваньня і замацаваньня, даецца:

а) мясцоваму насяленьню і мясцовым дзяржаўным установам, загатаўляючым лес для ўласных патрэб;

б) прадпрыемствам выканаўчых камітэтаў, асноўнай задачаю якіх зьяўляецца распрацоўка лесу, і выканаўчым камітэтам для забесьпячэньня вялікіх работ па жылішчным будаўніцтве;

в) лясным трэстам;

г) Лясной Управе, паводле палажэньня аб гаспадарчых распрацоўках і па спэцыяльных заданьнях;

д) лесазагатоўчым аддзелам чыгунак, якія маюць пад сваім ведамам на тэрыторыі БССР лесапільні;

е) саматужна-прамысловай коопэрацыі, якая мае на мэце пераапрацоўку драўніны;

ж) жылішчнай коопэрацыі.

*Увага*. Іншыя організацыі і прыватныя асобы маюць права на самастойную распрацоўку толькі тае драўніны, якая куплена з таргоў.

13. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў распрацаваць пытаньне аб упарадкаваньні і зьмяншэньні ў будучыне льготных і бясплатных выдач лесу для гаспадарчых устаноў і грамадзкіх організацый, маючы на ўвазе, што з 1927/28 бюджэтнага году памянёныя выдачы былі прыняты пад увагу ў каштарысах адпаведных устаноў.

14. Разьмер льготных, бясплатных і ў парадку крэдытаваньня выдач на 1926/27 опэрацыйны год павінен быць роўны па масе, прызначанай для гэтае мэты колькасьці драўніны ў 1925/26 годзе, пераведзенай масы ў грашовае выражэньне, пры гэтым, разьмер іх павінен быць узяты пад увагу пры ўстанаўленьні агульнае масы лесу, прызначанага на мясцовыя патрэбы. Лес бясплатна для здавальненьня тых або іншых патрэб павінен выдавацца толькі ў выпадках і на патрэбы, прадугледжаныя рашэньнямі СНК БССР.

15. Лічачы немэтазгодным удзел паасобных трэстаў і прадпрыемстваў Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі ў загатоўках лесу, ускласьці на Лесбел абавязкі дастаўляць прамысловасьці Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі будаўнічыя матар'ялы і драўніну на тару, а дастаўку драўніны працоўным колектывам па іх вытворчых праграмах ускласьці на аддзелы комунальнае гаспадаркі і Лесбел.

16. У адпаведнасьці з гэтаю пастановаю зьмяніць правілы, пастановы і інструкцыі, рэгулюючыя выдачу лесу.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Час. Вык. аб. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **З. Крэндзель.**

4 верасьня 1626 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае ССР

### АБ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНІ СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯЙ МЭДЫЦЫНСКАЮ ДАПАМОГАЮ І АБ ПАЛЕПШАНЬНІ МАТАР'ЯЛЬНА—БЫТАВОГА СТАНОВІШЧА ВУЧАСТКОВАГА МЭДЫЦЫНСКАГА ПЭРСОНАЛЮ

Для выкананьня пастановы VII-га Усебеларускага Зьезду Саветаў, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя пасылаць, у першую чаргу, на работу ў сельскія мясьцовасьці і мястэчкі тых мэдыцынскіх работнікаў (дактароў, зубных дактароў, акушэрак, фэльчароў, фармацэўтаў і мэдыцынскіх сясьцёр), якія вучачыся на мэдыцынскім факультэце, у мэдыцынскім тэхнікуме, або ў профэсіянальных школах, атрымоўвалі дзяржаўную стыпэндыю.

2. Ордынатары клінік (навуковыя супрацоўнікі), скончыўшыя ордынатуру, а таксама пакінўшыя яе да канца тэрміну ордынатуры, павінны адслужыць на дзяржаўнай доктарскай службе, у першую чаргу ў сельскіх мясцовасьцях і ў мястэчках БССР, па вызначэньні Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, з разьліку адзін месяц службы за адзін месяц ордынатуры, аб чым гэтыя асобы выдаюць пісьмовыя абавязнасьці.

*Увага* 1. Правілы гэтага артыкулу пашыраюцца як на асоб, новапрымаемых у ордынатуры (навуковыя супрацоўнікі), так і на лічачыхся ужо на памянёных пасадах да моманту ўваходжаньня ў сілу гэтае пастановы.

*Увага* 2. Зазначаныя правілы не пашыраюцца на тых, скончыўшых ордынатуру дактароў, якія Народным Камісарыятам Асьветы будуць пакінуты для далейшае навукова-вучэбнае работы пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў якасьці штатных асыстэнтаў.

3. Асобы, зазначаныя ў арт. арт. 1 і 2 гэтае пастановы, вызваляюцца ад адбываньня дзяржаўнай доктарскай службы, калі яна ня будзе ім дадзена паводле вызначэньня Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, або яго органаў на працягу трох месяцаў пасьля скан-

чэньня (а таксама пасьля пакіданьня да тэрміну) мэдыцынскае школы, або ардынатуры.

*Увага.* На час, прайшоўшы ад канца тэрміну навучаньня або ардынатуры да атрыманьня пасады, але ня больш трох месяцаў, НК Аховы Здароўя выдае гэтым асобам утрыманьне адпаведна з тым акладам стыпэндыі, або заработнае платы, які яны атрымоўвалі да сканчэньня мэдыцынскае школы або ардынатуры.

4. Народны Камісарыят Асьветы павінен пасылаць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя зьвесткі аб ардынатарах (навуковых супрацоўніках), скончыўшых тэрмін ардынатуры, не пазьней, як за тры месяцы да гэтага тэрміну, а ў выпадку выхаду да канца тэрміну, зараз-жа, для ўнясеньня іх ў сьпісы асоб, якія назначаюцца на доктарскія пасады паводле арт. 2 гэтае пастановы.

5. Запрапанаваць мясцовым выканаўчым камітэтам, местачковым і сельскім саветам даваць тым мэдыцынскім работнікам, якія камандыруюцца ў НК Аховы Здароўя на службу ў сельскія мясцовасьці і мястэчкі не пазьней двух тыдняў пасьля іх прыбыцьця кватэры, якія аплачваюцца з сродкаў гэтых мэдыцынскіх работнікаў.

Даручыць НК Аховы Здароўя на далей, пры плянаваньні будынкаў лячэбных установ у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках, прадугледжваць у іх кватэры для адпаведных мэдыцынскіх работнікаў.

6. Запрапанаваць адпаведным выканаўчым камітэтам прадугледжваць у мясцовым бюджэце выдаткі на забесьпячэньне доктарскіх вучасткаў патрэбнаю мэдыцынскаю літаратураю, а таксама забясьпечыць сродкамі перасоўваньня па раёну.

7. Устанавіць для вучастковых дактароў за кожныя пяць год службы тры пэрыядычныя прыбаўкі ў разьмеры 10 проц. атрымоўваемага акладу; тэрмін, які дае права на атрыманьне гэтае прыбаўкі, вылічаецца з моманту выданьня гэтае пастановы.

8. Мэдыцынскім работнікам, працаваўшым на дзяржаўнай службе ў мэдыцынскіх вучастках ня менш трох год, даецца, пры іншых роўных умовах, пераважнае права на заняцьце пасады ў гарадзкіх лячэбна-санітарных установах БССР.

9. Вучастковым дактаром, па пагляду НК Аховы Здароўя, даюцца кожныя тры годы ў межах Саюзу ССР навуковыя камандыроўкі тэрмінам да 2 месяцаў за кошт Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя па яго каштарысу. За дактарамі, якія камандыруюцца, цалкам захоўваецца іх заработная плата, парадак камандыраваньня і замена камандыраваных вызначаецца НК Аховы Здароўя. Тэрмін, які дае права на камандыроўку, вылічаецца з часу выданьня гэтае пастановы.

10. Дзеці мэдыцынскіх работнікаў, прапрацаваўшых на дзяржаўнай службе ў мэдыцынскіх вучастках ня меньш 3-х год, прымаюцца ва ўсе школы на агульных падставах з дзецьмі рабочых і сялян.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Час. Вык. аб. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў БССР **З. Крэндзель.**

14-га верасьня 1926 г.
г. Менск.

## Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ЦЭН ЛЕСУ НА ПНІ, ЯКІ АДПУСКАЕЦЦА ДЛЯ СЯЛЯНСТВА.

На грунце пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 18 верасьня г. г. аб адмене п. 3 пастановы ЦВК і СНК БССР за 21 сакавіка 1925 г. „аб мерах да упарадкаваньня водпуску лесу сялянскаму насельніцтву“ (З. З. БССР 1925 г. № 18, арт. 161), Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

Устанавіць цэны на лес, які адпускаецца на пні для сялянства, грунтуючыся на таксах 1924 г., пры гэтым разьмяркаваць усе лясныя дачы ня больш, як на 4 разрады ў кожнай акрузе, замест існуючых 8 разрадаў, з адпаведнаю пераацэнкаю лесу па новых разрадах з тым, каб сярэдняя па таксах 1924 г. цана ў акрузе не зьменшалася.

Старшыня Савету Народных Камісараў
БССР **Яз. Адамовіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

29 верасьня 1926 г,
г. Менск.

---

## Пастанова Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПАБУДОВЕ ПРАСЬВЕТАЎ (ВОКАН) У СЬЦЕНАХ І БРАНДМАЎЭРАХ НА СУСЕДНІЯ ЎЛАДАНЬНІ.

НКУС і НКЮ БССР даводзяць да ведама і кіраўніцтва, што пры немагчымасьці ў памяшканьнях, разьмешчаных на мяжы другога ўладаньня, пабудаваць прасьвет на вуліцу або на вучастак данага ўладаньня для адпаведнага асьвятленьня гэтага памяшканьня, дазваляецца пабудова ў сьценах і брандмаўэрах, разьмешчаных на мяжы другога ўладаньня, прасьветаў (вокан) на суседняе домаўладаньне з захаваньнем наступных правіл:

1. З жылых памяшканьняў ва ўладаньне жылога-ж памяшканьня дазваляецца пабудова ў сьценах і брандмаўэрах нястворчатых (глухіх) вокан, калі будынкі на суседнім уладаньні знаходзяцца на адлегласьці ня меней установленага разрыву, або калі вакно выходзіць адным або некалькімі паверхамі вышэй за суседній будынак, у праціўным выпадку, будуемыя ў сьценах і брандмаўэрах вокны павінны быць зашкляны па сыстэме Фальконьне (шкляною цэглаю).

2. Пабудова такіх-жа вокан з жылых памяшканьняў у суседняе ўладаньне, занятае заводам, фабрыкай або ўстановамі ваеннага Ведамства, дазваляецца толькі са згоды Кіраўніцтва фабрыкі, заводу або адпаведнае ваеннае ўстановы.

3. Пабудова такіх-жа прасьветаў у заводзкіх, фабрычных і прамысловых прадпрыемствах дазваляецца толькі ў выключных выпадках, прычым нястворчатыя вокны з звычайнымі шыбамі могуць быць зроблены толькі са згоды сумежнага дамаўладаньня.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

4 жніўня 1926 г.

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ВЫДАЧЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ І СПРАВАК АБ СЯМЕЙНЫМ І МАЕМАСНЫМ СТАНОВІШЧЫ ГРАМАДЗЯН, ПРЫЗВАНЫХ У Р. С. Ч. А.

*Усім Акруговым Выканаўчым Камітэтам.*

Паводле вестак, якія маюцца ў НКУС, ня ўсімі Сельскімі і Мястэчковымі Саветамі і нават Раённымі Выканаўчымі Камітэтамі выдаюцца правільныя пасьведчаньні і спраўкі аб сямейным і маемасным становішчы грамадзян, прызваных у Р. С. Ч. А. У Вышэйшую Прызыўную Камісію БССР пры хадайніцтвах аб звароце з РСЧА часта паступаюць пасьведчаньні і спраўкі: а) аб непрацаздольнасьці членаў сям'і прызнаных па становішчу здароўя тады, як устанаўленьне непрацаздольнасьці па здароўю і выдача аб гэтым дакумэнтаў можа выходзіць толькі ад Урачэбна-Кантрольных Камісій, якія існуюць пры Акруговых Аддзелах Аховы Здароўя і Райвыканкомах; толькі пасьведчаньні памянёных Камісій могуць лічыцца сапраўднымі дакумэнтамі аб непрацаздольнасьці; б) аб сямейным становішчы, з паказаньнем узросту членаў сям'і, неправеранага па мэтрычных запісах, ці пасямейных сьпісах, пры чым былі і такія выпадкі, калі чырвонаармеец прысылае з часткі пасьведчаньне Сельскага ці Местачковага Савету альбо і Райвыканкому аб сямейным становішчы з аднымі даннымі аб узросьце членаў сям'і, а праз некалькі часу ад бацькі ці маткі таго-ж чырвонаармейца паступала пасьведчаньне, выдадзенае тым-жа Сельскім ці Местачковым Саветам ці Райвыканкомам з даннымі зусім іншымі.

Тое-ж самае заўважваецца і пры выдачы пасьведчаньняў аб маемасным становішчы; часта зьвесткі аб маемасным становішчы не адпавядаюць сапраўднасьці, бяруцца са слоў і не правяраюцца, тагды як зьвесткі аб матар'яльным становішчы прызванага ў РСЧА маюць вялікае значэньне пры разгледжаньні хадайніцтваў аб звароце з РСЧА па сямейна-маемаснаму становішчу.

Усе гэта гаворыць за тое, што савецкія органы на мясцох не заўсёды ўважліва адносяцца да выдачы дакумэнтаў, дзякуючы чаму Вышэйшай Прызыўной Камісіі прыходзіцца запатрабоўваць дадаткова зьвесткі і правяраць дакумэнты, дабіваючыся пэўных данных аб сапраўдным сямейным і маемасным становішчы падаўшага просьбу аб звароце, што затрымлівае разгледжаньне хадайніцтваў і выклікае саўсім заслужаныя нараканьні.

Раённым Выканаўчым Камітэтам, Сельскім і Местачковым Саветам неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на выдачу ў падобных выпадках дакумэнтаў аб сямейным і маемасным становішчы, маючы на ўвазе, што закон „аб абавязковай вайсковай службе“ (Збор. Законаў СССР 1925 г. № 62, арт. арт. 462 і 463) дапускае датэрміновы зварот з арміі толькі тых грамадзян, якія пры прызыве мелі права на льготу 1-га разраду (арт. арт. 91—102), а дзеля гэтага павінны быць пададзены пэўныя, а ня прыблізныя данныя аб становішчы да дню прызыву сямейным (з пэўнымі зьвесткамі аб узросьце кожнага члена сям'і) і маемасным прызванага ў РСЧА.

Гэткія-ж самыя адносіны павінны быць і да дакумэнтаў, якія выдаюцца для атрыманьня льгот пры чарговых прызывах у РСЧА і пры прызывах у тэрытарыяльныя часткі.

Дзякуючы кароткасьці службы ў Чырвонай Арміі кароткатэрміновыя водпускі чырвонаармейцам, як правіла, не павінны выдавацца і могуць выдавацца толькі ў выключных выпадках, як-та: у вы-

падку сьмерці блізкіх родных, стыхійных няшчасьцяў і інш., пасьведчаных Сельскімі ці Местачковымі Саветамі або Райённымі Выканаўчымі Камітэтамі.

Пры праверцы правільнасьці выдадзеных у гэткіх выпадках пасьведчаньняў часта здараецца, што сьмерці блізкіх родных чырвонаармейца ці стыхійных няшчасьцяў, якія сьведчыліся Сельскімі ці Местачковымі Саветамі або Райённымі Выканаўчымі Камітэтамі ў супраўднасьці ня было і пасьведчаньні зьяўляюцца незаконнымі, выдадзенымі з мэтай даць магчымасьць пабыць чырвонаармейцу дома.

Падобнага роду незаконныя дзеяньні Сельскіх і Местачковых Саветаў, а часам і Райённых Выканаўчых Камітэтаў, прыносяць вялікую шкоду справе падрыхтоўкі маладняка да абароны Савецкай Краіны на выпадак небясьпечнасьці, не гаворачы ўжо аб падрыве Савецкай Улады на мясцох, бо аб выдачы фіктыўных дакумэнтаў становіцца вядомым і насельніцтву і чырвонаармейцам вайсковых частак.

Паказаныя недахопы можна вытлумачыць неўважлівымі адносінамі працаўнікоў сельскіх установ пры выдачы ў паказаных вышэй выпадках дакумэнтаў.

Каб зьнішчыць адзначаныя дэфекты, Народны Камісарыят Унутраных Спраў просіць зрабіць адпаведнае распараджэньне Райённым Выканаўчым Камітэтам і папярэдзіць іх, што ў далейшым пры выяўленьні няправільнасьці выдадзеных дакумэнтаў, вінаватыя ў гэтым асобы будуць прыцягвацца да адказнасьці.

Народны Камісар Ўнутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Інформацыйна-Інструктарскага Аддзелу НКУС **К. Веразінскі.**

1 верасьня 1926 г.
№ 262.

---

## Инструкция к постановлению Центрального Исполнительного Комитета и Совета Народных Комиссаров БССР от 18 сентября 1926 года

О МЕРОПРИЯТИЯХ ПО ДОРОЖНОМУ СТРОИТЕЛЬСТВУ СЕЛЬСКОГО ЗНАЧЕНИЯ*).

1. Сельским и местечковым Советам предоставляется право привлечения трудоспособного населения с имеющимся у него рабочим скотом, как-то: лошадьми, волами и проч., к работам по ремонту и восстановлению дорог и мостов сельского значения, для чего сельсоветы созывают общее собрание граждан и предварительно обсуждают все вопросы, касающиеся дорожного строительства, согласно § 3 Постановления ЦИК и СНК БССР.

2. В состав работ, подлежащих к выполнению силами местного населения, должны входить работы, не требующие применения особо квалифицированного труда. К таковым относятся массовые работы по улучшению полотна дороги, восстановлению и ремонту мостов до 5 пог. саж., земляные работы, мелкие работы по устройству гатей, пропуску воды, мелкие деревянные работы, работы по заготовке лесных, каменных и друг. материалов, разработке карьеров, вывозка и доставка материалов, очистка мест заготовок и проч.

3. Привлечение к трудовому участию в дорожных работах вовсе не распространяется на лиц, указанных в Кодексе Законов о Тру-

---

*) Гл. Пастанову на стар. 10.

де, ст. ст. 12 и 13, как то: а) не достигшие 18-ти лет, б) больные и увечные, в) временно утратившие трудоспособность на срок, необходимый для ее восстановления, г) беременные женщины на период времени за 8 недель до родов и роженицы в течении 8 недель после родов, д) женщины, кормящие грудью, е) инвалиды труда и войны, ж) женщины имеющие детей до 8-летнего возраста, при отсутствии лица ухаживающего за ними и з) лица административно-служебного персонала.

*Примечание.* Сельсоветы имеют право устанавливать и другие категории лиц, подлежащих освобождению от работ, с последующим утверждением РИК'а.

4. Использование рабочего скота в дорожных работах не допускается в нижеследующих случаях:

а) когда предстоящие работы ввиду физического состояния скота могут вывести его из работы на продолжительное время или сделать совершенно неработоспособным;

б) при заболевании заразными болезнями, требующими изоляции;

в) из селений, где скот находится в карантине;

г) при заболевании, сопровождающемся лихорадкой, и при других эпизоотических заболеваниях по удостоверению ветеринарного врача;

д) при хромоте, вызванной каким либо острым заболеванием или обострившемся хроническим состоянием;

е) в тех случаях, когда ветеринаром с лечебной целью сделано какое либо острое втирание или прижигание в области конечностей;

ж) скот, находящийся на излечении в ветеринарных лечебницах;

з) скот в течение 2-х недель после переболевания острыми лихорадочными болезнями, если замечается общая слабость;

и) маток в течение 2 месяцев до выжеребки и в течение 2 месяцев после выжеребки, если плод родился живым и выкармливается маткой;

к) моложе 3 лет;

л) в случае утраты трудоспособности в размере 40 и более процентов.

*Примечание.* Сельские и местечковые Советы могут устанавливать и другие льготы по освобождению от работы скота, по утверждению РИК'ов.

5. Привлечение населения к трудовому участию в работах дорожного строительства не допускается в период наибольшей занятости полевыми работами (весенняя вспашка, вывозка навоза, сенокос, уборка зерновых хлебов и посевов озимых и яровых, вспашка на зябь и уборка поздних корнеплодов).

6. Район привлечения к работам не должен превышать в радиусе 10-ти верст. Исключение представляет лишь транспортировка дорожных материалов.

7. При привлечении местного населения к работам по восстановлению и ремонту дорог сельского значения, Сельсоветы распределяют работы пропорционально между всеми слоями привлекаемого населения и к дорожным работам в соответствии с наличием живого инвентаря и рабочей силы в каждом отдельном крестьянском хозяйстве, а также мощностью последнего.

8. Общее количество рабочих дней в году намечается сельскими и местечковыми Советами в зависимости от намеченной программы работ. Определенное сельскими или местечковыми Советами количество рабочих дней рассматривается и согласовывается на общем собрании граждан. Общее количество рабочих дней по району утверждается соответствующим РИК'ом; причем РИК'и в случае установления сельскими или местечковыми Советами чрезмерно обременительного для населения количества рабочих дней, могут уменьшить таковые по отдельным районам работ.

9. Сельские и местечковые Советы намечают прикрепление участков дорог к отдельным селениям и поселкам, об'единяемым этими Советами и, по согласовании этого вопроса на общем собрании граждан сельской местности (сходе), представляют на утверждение Райисполкома. Причем, прикрепление участков дорог к отдельным селениям в отношении их размера производится применительно к числу жителей и рабочего скота, а также мощности хозяйства каждого отдельного селения.

10. Дороги и мосты специального значения, обслуживающие нужды каких нибудь учреждений или предприятий (санатории, дачи, заводы, фабрики, фабр.-зав. поселки и друг.) восстанавляются и ремонтируются силами и средствами этих предприятий.

11. По получении РИК'ами настоящей инструкции каждый РИК созывает совещание из Председателей сельских и местечковых Советов своего района, на котором оглашается постановление ЦИК'а и СНК БССР о мероприятиях по дорожному строительству сельского значения, а также данная инструкция, после чего устанавливается:

а) порядок составления списка дорог, скорейшее восстановление которых необходимо;

б) порядок прикрепления участков дорог к отдельным селениям;

в) возможное количество дней в году трудового участия населения в дорожном строительстве;

г) выявление степени возможности материальной, финансовой и технической помощи в этом деле со стороны РИК'ов и Окрисполкомов.

12. По получении указаний от РИК'ов сельские и местечковые Советы созывают общее собрание граждан данной местности или селения, на которых разрешается вопрос о порядке участия граждан в улучшении и ремонте своих дорог, о числе рабочих дней в году, о районе работ и, если собрание делается для группы селений, об'единяемых сельским советом, то на этом собрании производится распределение участков между селениями.

13. Для технической подготовки работ Окрисполкомы через посредство Дор. П/отделов Окркомхозов рассылают для руководства РИК'ам указания по исчислению количества работ, потребной рабсилы и материалов по каждой работе.

На основании этих указаний по получении соответствующих раз'яснений от РИК'ов, Сельсоветы сообщают РИК'ам перечень всех дорог и мостов, подлежащих восстановлению с указанием характера работ и их примерного количества.

14. На основании сведений, предусмотренных ст. 16, Райисполкомы, сообразуясь с имеющимися возможностями удовлетворения мест лесными и другими материалами и количеством имеющихся рабочих, а также своими бюджетными возможностями, составляют план работ по району на предстоящий операционный год.

робяць у першы раз, у высьвятленьні прычын ускладненьня прывівак і вялікага проценту цяжкіх і сьмяртэльных з прычыны прывівак захварэньняў і да г. п. У гэтых апошніх выпадках пры непасрэдным удзеле адказнага пэрсоналю ляборатырыі і інстытутаў павінны быць праведзімы падрабязныя прыжыцьцёвыя і пасьмертныя дасьледаваньні.

§ 49. Вэтэрынарна-бактэрыолёгічныя інстытуты і ляборатырыі выпрацоўваюць для вэтэрынарнага пэрсоналю абслужваемага ім раёну настаўленьні аб найболей прыгодных прыстасавана да мясцовых умоў спосабах зьбіраньня і адсылкі ў ляборатырыі матар'ялаў для дыагнозу сібірскай язвы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

29 жніўня 1926 г.

---

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ АБАВЯЗКОВЫМ УЗГАДНЕНЬНІ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ І ЛЕСАЎПАРАДЧЫХ РАБОТ.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам, Інспэктарыятам Лясоў, Лясьнічым, Земляўпарадчыкам і Лесаўпарадчыкам.*

Паводле паступіўшых у Кіраўніцтва Лясамі і ў Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньнем, Мэліорацыяю і Дзяржаўнаю Зямельнаю маемасьцю зьвестак відаць, што земляўпарадчыкі, лясьнічыя і лесаўпарадчыкі пры сваіх работах часта не выпаўняюць вымаганьняў цыркуляру НКЗ за 29 мая 1924 г. № 18 аб узгадненьні земляўпарадкаваньня і лесаўпарадкаваньня. Так, напрыклад:

1. Земляўпарадчыкі не заўсёды акуратна і сваячасна пасылаюць лясьнічым павесткі для яўкі пры ўстанаўленьні межаў паміж землямі, падлягаючымі ўпарадкаваньню, і ляснымі дачамі. Есьць выпадкі, калі земляўпарадчыкі не прытрымліваюцца зацьверджаных адпаведнымі камісіямі проэктаў абмену лясных плошчаў на землі сельскагаспадарчага карыстаньня і ўносяць у гэтыя проэкты значныя зьмены, не ўзгадняючы апошніх з ляснымі ўстановамі. Апроч гэтага, земляўпарадчыкі не заўсёды ўзгадняюць належным парадкам з лясьнічымі пытаньні аб уключэньні ў падлягаючыя земляўпарадкаваньню дачы тых ці іншых плошчаў.

2. У сваю чаргу, лясьнічыя альбо зусім не зьяўляюцца па выкліку земляўпарадчыка, альбо ўпаўнаважваюць ад сябе асоб, зусім не правамоцных і не компэтэнтных, як аб'езчыкаў і лясьнікоў. Лесаўпарадчыкі пры сваіх работах часта ня прымаюць пад увагу межавых знакаў, пастаўленых земляўпарадчыкамі, а таксама не запрашаюць для прысутнічаньня пры работах, якія вядуцца на межах з лясным фондам, прадстаўнікоў зямельных установаў.

У зьвязку з гэтым, і маючы на ўвазе, што адсутнасьць належнай пагоджанасьці земляўпарадкаваньня і лесаўпарадкаваньня да

гэтага часу значна перашкаджае справе організацыі зямельнае тэрыторыі, а таксама вядзеньню лясное гаспадаркі, Народны Камісарыят Земляробства прапануе зьліквідаваць існуючыя да гэтага часу непаразуменьні і няўхільна кіравацца цыркулярам №18 за 29 мая 1924 году і ўсімі пазьнейшымі распараджэньнямі, якія так ці іначай тычацца паказанага пытаньня.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька**.

Нам. Начальніка Кіраўмэліозему НКЗ **Лиодт**.

Нач. Кіраўніцтва Лясамі НКЗ **Волкаў**.

7 верасьня 1926 г.
№ 21/33.

---

Выданы ў парадку арт. 13 і ў разьвіцьцё пункту „б" арт. 12 Вэтэрынарнага Уставу БССР.

## Правілы аб вэтэрынарна-санітарным наглядзе за кірмашамі, базарамі, выстаўкамі і гандлем сырымі жывёлавымі продуктамі на тэрыторыі БССР.

Усе жывёлавыя кірмашы і базары, а таксама выстаўкі па жывёлагадоўлі, адчыняемыя ў розных населеных пунктах БССР і ў раней ўстаноўленыя Акружнымі Выканаўчымі Камітэтамі тэрміны, павінны знаходзіцца пад строгім наглядам мясцовага райённага ці вучастковага вэтэрынарнага нагляду.

*Увага.* Для ўстанаўленьня вэтэрынарнага нагляду за кірмашамі, буйнымі базарамі і выстаўкамі ў акругах Райённыя Выканаўчыя Камітэты павінны загадзя паведамляць Акруговыя Зямельныя Аддзелы асобнымі паказчыкамі тэрмінаў адчыненьня і працягу іх.

2. У выпадку зьяўленьня заразьлівай хваробы на жывёле ў пункце, а таксама і ў мясцовасьці, небясьпечнай па ёй, дзе павінен быць кірмаш з гандлем жывёлай ці выстаўкай з аддзелам жывёлагадоўлі, мясцовы вэтэрынарны ўрач, кіруючыся родам хваробы і ступеньню яе распаўсюджанасьці, ці прыймае меры для адхіленьня небясьпекі пераходу хваробы на кірмашовую ці выставачную жывёлу, ці не дапушчае на кірмаш або выстаўку жывёлы, якая успрыймальна да заражэньня, ці, нарэшце, пры перакананьні ў невыстарчальнасьці ўсіх паказаных мер, прадстаўляе матывіраваную прапанову Прэзыдыуму Акруговага Выканаўчага Камітэту аб зачыненьні кірмашу ці выстаўкі.

*Увага.* У выпадках, якія ня могуць адкладвацца, гэтакія прапановы робяцца вэтэрынарнымі ўрачамі па тэлеграфу.

3. Датычэньне мясцовае скаціны да скаціны, якая прыганяецца на кірмашы, базары, выстаўкі, а таксама з прывознымі сырымі жывёлавымі продуктамі, павінна быць усімі спосабамі папярэджваема пры дапамозе сельскай улады, міліцыі.

4. З гэтай мэтай гандаль жывёлай і сырымі жывёлавымі продуктамі па дварох, як абыватэльскіх, гэтак і пастаялых (заездах), катэгорычна забараняецца.

5. На кожным кірмашы ці базары павінны быць адведзены асобныя месцы для гандлю коньмі, рагатай жывёлай, авечкамі, сьвіньмі і дамовымі птушкамі, а таксама для продажу сырых жывёлавых прадуктаў (нявырабленых шкур, аўчын, шэрсьці, воласу, шчаціны, пер'я, мяса, сала і інш.

6. Для аддзяленьня падазронай і відавочна хворай заразьлівымі хваробамі жывёлы павінны быць аддзелены асобныя месцы (ізалятары), воддаль ад кірмашных, базарных і выставачных пляцоў.

7. Уласьнікі прыганяемае на кірмашы, базары і выстаўкі жывёлы і прывозных сырых жывёлавых продуктаў павінны мець на руках пасьведчаньні ад мясцовага вэтэрынарнага працаўніка, а пры адсутнасьці яго—ад сельскай ўлады ці міліцыі аб тым, што ў мясцовасьці, адкуль дастаўлена жывёла і сырыя жывёлавыя прадукты, у данны час няма павальна-заразных хвароб жывёлы.

8. Прыгнаная на кірмашы, базары і выстаўкі жывёла, а таксама прывезеныя сырыя жывёлавыя прадукты, аглядваюцца вэтэрынарным пэрсоналем, прычым выяўленая ім хворая ці падазроная ў захварэньні заразьлівую хваробаю жывёла і прадукты падазронае якасьці не дапушчаюцца на ярмарачны ці выставачны пляц.

9. Затрыманая вэтэрынарным наглядам на кірмашох, базарах і выстаўках хворая ці падазроная ў захварэньні заразьлівымі хваробамі жывёла адасабляецца неадкладна ў асобна адведзенае месца (гл. § 6) і ў далейшым з ёю абыходзяцца згодна арт. 14 Вэтэрынарнага Уставу. Выяўленыя-ж на кірмашох і базарах падазронага характару сырыя жывёлавыя продукты неадкладна конфіскуюцца вэтэрынарным наглядам для вызначэньня вэтэрынарна-санітарнага становішча іх.

10. Для згону жывёлы і фармаваньня яе ў гурты і партыі для адпраўкі ў другія месцы адводзяцца на кірмашных пляцох ці паблізу ад іх, па ўказаньні мясцовага вэтэрынарна-санітарнага нагляду, асобныя абгароджаныя месцы.

11. Сфармаваныя на кірмашох ці базарах гурты, перад іх адпраўкай да месца назначэньня, аглядваюцца вэтэрынарным наглядам, які выдае потым ўласьнікам жывёлы пасьведчаньні аб становішчы здароўя адпраўляемае жывёлы.

12. Пры сырых жывёлавых прадуктах, адпраўляемых ўласьнікамі з кірмашоў і базараў ў другія месцы павінны быць пасьведчаньні вэтэрынарна-санітарнага нагляду аб тым, што гэтыя прадукты накіроўваюцца з мясцовасьцяй, якія ня маюць заразных хвароб і не зьяўляюцца небясьпечнымі ў санітарных адносінах.

13. Пасьля зачыненьня кірмашоў, базараў і выставак, усе месцы, якія былі адведзены для жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў, павінны быць старанна ачышчаны ад гною, астаткаў корму і інш. пад наглядам сельскае ўлады, міліцыі і за кошт тых асоб і ўстаноў, якім належаць кірмашныя і выставачныя плошчы.

*Увага.* Абеззаражваньне (дэзынфэкцыя) кірмашных і выставачных плошчаў, у выпадку патрэбы, робіцца вэтэрынарным наглядам за кошт Народнага Камісарыяту Земляробства.

14. Правядзеньне ў жыцьце і нагляд за точным выпаўненьнем гэтых правіл ускладаецца на міліцыю, сельскую ўладу і Акруговыя Зямельныя Аддзелы ў асобе Вэтэрынарных часьцей іх.

15. Асобы, вінаватыя ў парушэньні выкладзеных правіл, падлягаюць адказнасьці ў парадку арт. арт. 86 і 219 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР **Кроль.**

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва
НКЗ БССР **Серпаў.**

11 верасьня 1926 г.

## Цыркуляр Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па спрэчных зямельных справах пры Народным Камісарыяце Земляробства БССР

### АБ ПАЗБАЎЛЕНЬНІ АД ГЭРБАВАГА ЗБОРУ ДАГАВОРАЎ АБ ПРАЦОЎНАЙ АРЭНДЗЕ ЗЯМЛІ.

*Акруговым Зямельным Камісіям БССР.*

У адказ на запытаньне Кіраўмэліозему ад 22-га лютага 1924 г. за № 1534, Падатковае Кіраўніцтва НКФ БССР адносінаю ад 11-га сакавіка таго-ж году за № 20410 растлумачыла, што дагаворы аб арэндзе працоўнай зямлі падлягаюць пропорцыянальнаму збору ў разьмеры 0,5% з сумы выгаварaных плацяжоў.

Кіруючыся гэтым тлумачэньнем, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю давала адпаведныя паказаньні зямельным камісіям пры іх рэвізіі, а таксама ў адказ на запытаньне Мазырской Акруговай Зямельнай Камісіі дала ёй аналёгічнае тлумачэньне адносінаю ад 5-га студзеня г. г. за № 6/181.

У цяперашні час Народны Камісарыят Фінансаў БССР па Падатковаму Кіраўніцтву адносінаю ад 3 верасьня за № 2 пс 21605 на імя Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю просіць адмяніць яе распараджэньне ад 5-га студзеня г. г. за № 6/181 з прычыны таго, што дагаворы працоўнай арэнды, як адносячыяся да дакумэнтаў па справах працоўнага землякарыстаньня падлягаюць вызваленьню ад гэрбавага збору на аснове § 35 пераліку выняткаў і п. 6 § 41 падрабязговага альфабэтнага пераліку дакумэнтаў.

Грунтуючыся на апошнім паведамленьні НКФ, а таксама кіруючыся пастановаю СНК СССР аб вызваленьні ад гэрбавага збору пісьмовых зваротаў прыватных асоб у раённыя выканаўчыя камітэты і адказаў апошніх па ўсіх справах апроч тычачыхся гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў (Збор. Законаў за 1926 г. № 35, арт. 256), Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю дае ведаць, што райнейшыя тлумачэньні яе аб аплаце гэрбавым зборам дагавораў працоўнай арэнды зямлі страцілі ў цяперашні час сваю сілу і што наперад пры зарэгістраваньні азначаных дагавораў у Раённым Выканаўчым Камітэце не патрэбна сыскваць ніякіх збораў.

Аб выкладзеным прапануецца паведаміць усім Раённым Выканаўчым Камітэтам.

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю
пры НКЗеме БССР **І. Лабаноўскі.**

Дакладчык-Консультант **Я. Вішнеўскі.**

17 верасьня 1926 г.
№ 7.

Зацьверджан Экономнарадай БССР 14/VII 26 г.

## Статут .............................. Мэліорацыйнага Таварыства*).

### 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ.

§ 1. Мэліорацыйнае таварыства пад назвай .............................. утвараецца для супольнага правядзеньня работ па грунтоўнаму палепшаньню і культуры разьмешчаных .............................. няўдобных угодзьдзяў, як знаходзячыхся ў карыстаньні членаў т-ва, гэтак і адвадзімых з дзяржфонду, а таксама і выкарыстаньню іх.

*) Палажэньне аб Мэліорац. т-вах надрукована у Збор. Зак. БССР. № 28, 1925 г., арт. 251.

§ 2. Для дасягненьня намечанай мэты т-ва ўводзіць абавязковы для ўсіх членаў т-ва ўдзел у работах. Правядзеньне работ, патрабуючых особных тэхнічных навыкаў і спэцыялных ведаў, як-та: адшуканьні, складаньне проэктаў і кіраўніцтва гідра-і культуртэхнічнымі мерапрыемствамі, выконваемымі т-вам, ажыцьцяўляюцца акруговымі органамі с.-г. мэліорацыі.

§ 3. Т-ва мае права:

а) уступаць членам ва ўсякага роду аб'яднаньні, бліжэйшым чынам дапамагаючыя разьвіццю дзейнасьці т-ва;

б) утвараць уласныя майстэрні, склады, дасьледча-паказальныя ўгодзьдзі, насенныя рассаднікі і да г. п;

в) утвараць пабудаваньні для абвадненьня і асушэньня глебы, для выкарыстаньня сілы падзеньня вады і электрофікацыі сельскае гаспадаркі і ў дамовых ужытках выкарыстоўваць іх;

г) рабіць пазыкі, атрымліваць пазычкі, а таксама і выдаваць пазычкі членам т-ва на патрэбы мэліорацыі;

д) адчыняць чытальні, бібліотэкі, курсы і выстаўкі;

е) організоўваць, наогул, усякага роду неабходныя ці карысныя для мэт таварыства прадпрыемствы і абсталяваньні;

§ 4. Т-ва карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнае асобы, усімі законнымі спосабамі набывае і адчужае правы па маемасьці, робіць умовы, заключае дагаворы, уваходзіць з хадайніцтвам у ўстановы, атрымлівае пазычкі і дапамогі, сысквае і адказвае на судзе.

§ 5. Т-ва падлягае ўсім дзейнічаючым і тым, якія наперад могуць быць выданы, дэкрэтам, пастановам і інструкцыям цэнтральнай і мясцовай улады, а таксама тэхнічным паказаньням мясцовых органаў па с.-г. мэліорацыі.

§ 6. Т-ва мае пячатку з адбіткам свайго найменьня.

§ 7. Праўленьне Т-ва зьмяшчаецца ў ..................................................... ....................................................., паштовы адрас: .....................................................

## 2. СКЛАД Т-ВА, ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ЯГО ЧЛЕНАЎ.

§ 8. Членамі т-ва зьяўляюцца ўсе дасягнуўшыя грамадзянскага поўналецьця (18-ці год) поўнапраўныя землякарыстальнікі, зацікаўленыя ў даннай мэліорацыі, а таксама і асобы с.-г. працы і с.-г. адукацыі.

§ 9. Асобы, грамады і прадпрыемствы, зямельныя вучасткі якіх па тэхнічных умовах павінны быць закрануты мэліорацыяй, організуемай т-вам, абавязаны ўвайсьці ў склад яго, калі палова землякарыстальнікаў, у карыстаньні якіх знаходзіцца палова зямлі падлягаючай мэліорацыі, вынясе пастанову аб правядзеньні мэліорацыйных работ.

§ 10. Савецкія гаспадаркі і іншыя дзяржаўныя і грамадзкія гаспадарчыя ўстановы ўваходзяць у т-ва як юрыдычныя асобы, доля іх удзелу—працоўнага і інш.—пропорцыянальна разьмеру іх плошчы ў мэліорыруемым вучастку.

§ 11. Прыём членаў у таварыства робіцца агульным сходам членаў ці, па яго ўпаўнаважаньню, праўленьнем.

§ 12. Уваходзячы ў т-ва член павінен заплаціць уступны ўзнос і ўнесьці адзін пай, згодна §§ 27 і 28 Статуту.

§ 13. Уступны ўзнос устанаўляецца ў разьмеры .......................... руб. .......... кап.

§ 14. Уступаючы ў т-ва член павінен выдаць падпіску ў тым, што ён абавязуецца выпаўняць Статут т-ва і падлягаць пастановам

агульнага сходу і прыймае на сябе адказнасьць па справах т-ва, згодна § 21 гэтага Статуту.

§ 15. Уступаючы ў т-ва член адказвае на ўсіх абавязнасьцях т-ва, якія ўзьнiклі да яго ўступленьня.

§ 16. Кожны член т-ва атрымлівае пасьведчаньне аб удзеле яго ў т-ве за подпісам старшыні і сэкратара праўленьня і за пячаткай таварыства.

§ 17. Паасобныя члены т-ва маюць права выйсьці з таварыства толькі з яго згоды і перадаўшы яму свой мёліорыруемы вучастак, зрабіўшы з таварыствам разьлік па зробленых выдатках.

§ 18. Члены, ня выконваючыя сваіх абавязацельстваў перад таварыствам, парушаючыя Статут, не падлягаючыя законным патрабаваньням т-ва і наогул, дзейнічаючыя яму на шкоду, могуць быць выключаны з т-ва па пастанаўленьню агульнага сходу, а іх вучасткі перадаюцца для мэліорацыі другім членам т-ва.

§ 19. Выключаны член лічыцца выбыўшым у апошні дзень опэрацыйнага году, у каторым адбылося выключэньне, але прыймаць удзел у агульных сходах ці займаць пасады ў т-ве выключаны ня мае права з дню атрыманьня ім паведамленьня аб яго выключэньні.

§ 20. Выключаны член т-ва можа быць прынят ізноў у т-ва ў парадку толькі пастановы агульнага сходу.

§ 21. Кожны член т-ва нясе разам з усімі іншымі членамі адказнасьць па абавязацельствах т-ва ў парадку, паказанным у §§ 33 і 83 гэтага Статуту, адказнасьць гэта, аднак, ня можа перавышаць ............. кратную суму паю.

§ 22. Выбыўшыя ці выключаныя члены т-ва ці іх насьледнiкі па абавязацельствах т-ва, узьнікшых да іх выбыцьця, адказваюць у працягу аднаго году з дню сканчэньня таго опэрацыйнага году, у якім яны выбылі.

§ 23. Па сканчэньні трох месяцаў пасьля зацьверджаньня агульным сходам справаздачы за той опэрацыйны год, у працягу якога член выбыў, яму ці яго насьледнікам зварочваецца паявы ўзнос, з вылічэньнем падаючых на яго долю страт ці з прылічэньнем належачага яму прыбытку. Апрача паявога ўзносу, выбыўшы ня мае права на атрыманьне якой небудзь часткі з капіталаў ці другое маемасьці таварыства.

§ 24. У выпадку зьліквідаваньня т-ва да сканчэньня тэрміну адказнасьці выбыўшага члена, ён ці яго насьледнікі, захоўваюць за сабой пры ліквідацыі т-ва маемасныя правы і нясуць адказнасьць нараўне з членамі т-ва.

## III. СРОДКІ ТАВАРЫСТВА.

§ 25. Таварыства мае капіталы:

а) асноўны, б) запасны і в) спэцыяльны.

§ 26. Асноўны капітал складаецца з: 1) беззваротных уступных узносаў членаў т-ва, 2) з паявых узносаў, 3) з сум ахвяраваных т-ву, 4) з пазык у членаў т-ва ці ў пабочных асоб і ўстаноў, а таксама пазычак з устаноў мэліорцыйнага крэдыту і 5) з адлічэньняў ад чыстага прыбытку.

§ 27. Пай устанаўляецца ў разьмеры................руб.........кап.

§ 28. Пай уносіцца альбо цалкам, пры ўступленьні ў т-ва, альбо з рассрочкой па правілах, устанаўленых агульным сходам.

§ 29. Пай ня можа быць перадан другой асобе.

§ 30. Утварэньне запаснага капіталу зьяўляецца абавязковым. Запасны капітал прызначаецца для пакрыцьця страт т-ва і склада-

ецца з адлічэньняў ад чыстага прыбытку пакуль запасны капітал не дасягне.................. часткі асноўнага капіталу, у яго павінна адлічвацца штогодна ня менш аднэй пятай часткі чыстага прыбытку т-ва. Пры памяншэньні запаснага капіталу ад пакрыцьця страт ніжэй нормы, з чыстага прыбытку наступных гадоў у першую чаргу папаўняецца запасны капітал да нормы.

§ 31. Па пастанаўленьню агульнага сходу могуць быць утвораны таксама і спэцыяльныя капіталы на вядзеньне якіх-небудзь спэцыяльных опэрацый, на пакрыцьце страт па такіх опэрацыях ці з якім небудзь другім прызначэньнем. Парадак утварэньня і выдаткаваньня гэтых капіталаў устанаўляецца агульным сходам.

§ 32. Для ўсіленьня сваіх сродкаў т-ва можа рабіць пазыкі. Умовы пазык і пазычак (гранічныя разьмеры, проценты) устанаўляюцца агульным сходам.

§ 33. Па сваіх абавязацельствах т-ва адказвае ўсёю маемасьцю т-ва, у тым ліку і ўраджаем з мэліорыруемай плошчы, апрача таго па абавязацельствах т-ва адказваюць члены т-ва ў межах.................. кратнай адказнасьці паявых узносаў.

### IV. КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ТАВАРЫСТВА.

§ 34. Кіраўніцтва справамі таварыства ўскладаецца на: а) агульны сход членаў і б) праўленьне.

*Увага.* Агульнаму сходу даецца права організаваць сход упаўнаважаных, да якога ў такім выпадку пераходзяць правы агульнага сходу, паказаныя ў § 36, п. „д“ і далей да канца гэтага §-фу.

### А. Агульны сход

§ 35. Рашэньні агульнага сходу (ці сходу ўпаўнаважаных) прыймаюцца простай большасьцю галасоў, апрача выпадкаў, асобна агавораных статутам.

§ 36. Агульны сход членаў таварыства:

а) зацьвярджае плян мэліорацыйных работ і зьмену статуту таварыства;

б) выбірае ўпаўнаважаных і прыймае новых членаў у таварыства;

в) зацьвярджае штогодныя справаздачы сходу ўпаўнаважаных, праўленьня і рэвізійнай камісіі;

г) вырашае пытаньне аб спыненьні работ таварыства, калі такое паднята праўленьнем, сходам упаўнаважаных ці ня менш, чым 1/3 членаў таварыства;

д) выбірае праўленьне ў складзе ня менш 3-х асоб і рэвізійную камісію ў тым-жа складзе і ўстанаўляе іх абавязнасьці асобымі наказамі;

е) зацьвярджае: плян бягучых работ таварыства і яго прыбыткова-выдатковыя каштарысы;

ж) правілы вытворчасьці работ і аховы работ ужо праведзеных;

з) устанаўляе парадак абавязковых работ;

і) устанаўляе разьмер, форму і тэрміны ўдзелу членаў у складаньні сродкаў таварыства;

к) зацьвярджае правілы для расцэнкі прадметаў, прадуктаў і працы членаў;

л) устанаўляе парадак выдаткаваньня праўленьнем сродкаў таварыства і разьмеркаваньня работ між членамі праўленьня, а таксама адказнасьць праўленьня за недагляды і няправільныя дзеяньні;

м) вызначае разьмер узнагароды службовых асоб, як запрошаных па найму, так і выбраных;

н) вырашае скаргі на праўленьне, рэвізійную камісію і іншыя органы таварыства;

о) вызначае парадак скліканьня і работы агульных сходаў, пасколькі яны не прадугледжаны статутам;

п) устанаўляе парадак разьмеркаваньня і назначэньня прыбыткаў і выдаткаў таварыства;

вырашае пытаньні:

р) аб пазычках і дапамогах;

с) аб уступленьні ў саюзы і аб'яднаньні;

т) аб зьмяшчэньні раней установленага тэрміну членаў праўленьня і рэвізійнай камісіі;

у) вырашае ўсе іншыя пытаньні, якія тычацца да спраў таварыства і не падлягаючыя вырашэньню праўленьня.

*Увага.* Гідро-і культуртэхнічныя пляны і проэкты мэліорыруемых вучасткаў, парадак і спосаб іх эксплёатацыі канчаткова зацьвярджаюцца мэліорацыйнай часьцю АкрЗА.

§ 37. Агульныя сходы членаў бываюць:

а) чарговыя, склікаемыя праўленьнем па меры патрэбы, але ня менш 4-х раз у год:

1) у тым месяцы, калі ў данай мясцов. пачынаюцца палявыя работы;

2) перад уборкай ураджаю;

3) па сканчэньні уборкі і

4) у першых днёх новага году;

б) надзвычайныя, склікаемыя праўленьнем па патрабаваньню рэвізійнае камісіі або ня менш аднэй пятай часьці членаў ці аднэй трэцяй упаўнаважаных, калі яны выбраны. Агульны сход лічыцца адбыўшымся пры прысутнасьці на ім больш паловы членаў т-ва.

§ 38. Калі агульным сходам членаў т-ва ўстаноўлены сход упаўнаважаных, то агульны сход членаў ва ўсякім выпадку склікаецца праўленьнем штогод, не пазьней лютага.

Апрача чарговага гадавога, могуць склікацца і надзвычайныя сходы па пастанаўленьню праўленьня, сходу ўпаўнаважаных або па заяве 1/10 членаў.

§ 39. Калі праўленьне ня склікае агульнага сходу т-ва (ці сходу ўпаўнаважаных) у належныя тэрміны, то сход склікаецца рэвізійнай камісіяй.

Парадак скліканьня членаў устанаўляецца агульным сходам, але ва ўсякім выпадку члены павінны быць паведамлены, прынамсі за тры дні, а ў выключных пільных выпадках за 1 дзень, аб часе, месцы і парадку дню агульнага сходу, а таксама аб гэтым павінна быць вывешана ў памяшканьні праўленьня абвестка з паказаньнем пытаньняў, падлягаючых абмеркаваньню на сходзе.

§ 40 Калі ў дзень, вызначаны для агульнага сходу, не зьбярэцца паказаны ў § 37 лік членаў, то для вырашэньня пытаньняў, пастаўленых на павестку дню гэтага сходу, назначаецца не пазьней тыдня другі сход, які прызнаецца адбыўшымся незалежна ад таго, колькі-б членаў у ім ні ўдзельнічала, за выключэньнем вападкаў, калі агульны сход склікаецца для вырашэньня асабліва важных пытаньняў, паказаных у § 45 гэтага статуту: гэтыя апошнія пытаньні і на паўторным сходзе вырашаюцца ня інакш, як пры ўдзеле больш паловы ўсіх членаў таварыства.

§ 41. На агульным сходзе старшынствуе асоба, выбіраемая кожны раз для даннага сходу.

§ 42. На агульным сходзе кожны член т-ва мае адзін голас, прычым права голасу ня можа быць перадаваема.

§ 43. На агульных сходах могуць удзельнічаць з правам дарадчага голасу і асобы, не зьяўляючыяся членамі т-ва, па запрашэньню праўленьня.

§ 44. Члены праўленьня, зьяўляючыяся членамі т-ва, удзельнічаюць на агульным сходзе на роўных правох з іншымі членамі таварыства, але бяз права пастаноўчага голасу пры разгляданьні пытаньня:

а) аб зацьверджаньні справаздачы;

б) аб ацэнцы дзейнасьці членаў праўленьня і аб вызначэньні ўзнагародны ім;

в) аб прыцягненьні іх да судовай адказнасьці.

§ 45. Для пастановы аб зьмене статуту, аб устанаўленьні абавязковых для ўсіх членаў узносаў на ўтварэньне спэцыяльных капіталаў, аб раскладцы страт па § 76 і аб спыненьні спраў т-ва патрабуецца большасьць двух трэціх галасоў прысутных на сходзе членаў, іншыя справы і пытаньні вырашаюцца простай большасьцю галасоў,

§ 46. Пастановы агульнага сходу запісваюцца ў асобную кнігу, прысутным няпісьменным членам складаецца паіменны сьпіс, затым пастановы падпісваюцца старшынёй, прысутнымі членамі праўленьня і пісьменнымі членамі т-ва. Законная пастанова агульнага сходу абавязкова для ўсіх членаў, як прысутных, так і адсутных.

На агульным сходзе кожны член мае права заявіць сваё пярэчаньне і трэбаваць запісу яго ў пратакол, калі ён знаходзіць пастанову сходу праціўнай закону або статуту т-ва.

§ 47. Упаўнаважаныя выбіраюцца агульным сходам членаў т-ва на адзін год з разьліку па аднаму........................ад членаў т-ва і ня менш чым па......................ад кожнае вёскі. Агульны сход можа адзываць сваіх упаўнаважаных і замяняць іх другімі і раней тэрміну, у выпадку прызнаньня іх дзейнасьці шкоднай.

Сход упаўнаважаных, калі такі ўстаноўлен агульным сходам членаў т-ва, склікаецца праўленьнем у тэрміны, устаноўленыя § 37 гэтага статуту.

## Б. Праўленьне.

§ 48. Праўленьне ёсьць выканаўчы орган т-ва. Яно павінна весьці ўсе яго справы, дзейнічаючы на аснове гэтага статуту і зацьверджаных агульным сходам правіл. Праўленьне ўвасабляе т-ва без асобнай на тое даверанасьці ва ўсіх яго справах, абавязацельствах, у зносінах з членамі, таксама і пабочнымі асобамі і ўстановамі.

§ 49. Праўленьне з дазволу агульнага сходу можа даручыць аднэй асобе з свайго складу кіраваньне бягучымі справамі т-ва.

Асоба гэта дзейнічае пад агульным наглядам і за адказнасьцю праўленьня і забясьпечваецца ім належнай даверанасьцю.

§ 50. У прыватнасьці на праўленьне ўскладаецца:

а) складаньне правіл па ўсіх галінах дзейнасьці т-ва і ўнясеньне іх на разгляд агульнага сходу;

б) прыём і выдача грошай ад імя т-ва з належачых т-ву грашовых сум і адшуканьне другіх крыніц для папаўненьня сродкаў т-ва;

в) правядзеньне опэрацый па збору, збыту і куплі прадуктаў, інвэнтару і інш. маемасьці, прыёмка, бракоўка, устанаўленьне пра-

дажных і пакупных цэн, а таксама захоўваньне і ўтрыманьне ўсяе маемасьці т-ва;

г) кіраваньне гаспадарчымі мерапрыемствамі і работамі т-ва і разьмеркаваньне абавязкаў паміж членамі;

д) заключэньне дагавораў ад імя т-ва;

е) правядзеньне зыскаў на карысьць т-ва і адказ на судзе па зысках, прад'яўленых т-ву;

ж) наём і звальненьне служачых і рабочых;

з) вядзеньне рахункаў, кніг і справаводзтва т-ва;

і) складаньне гаспадарчых плянаў і каштарысаў;

к) складаньне гадовае справаздачы і ўнясеньне яе на агульны сход для зацьверджаньня;

л) другія абавязкі, выцякаючыя з адказнага загадваньня справамі т-ва.

§ 51. Унутраны распарадак работы праўленьня ўстанаўляецца агульным сходам.

§ 52. Праўленьне т-ва павінна весьці сьпіскі:

1) асоб, зьяўляючыхся членамі т-ва;

2) паявых узносаў паасобных членаў;

3) разьмеру агульнай сумы дадатковае адказнасьці членаў па абавязацельствах т-ва.

§ 53. За страты, зробленыя т-ву праўленьнем праз парушэньне сваіх абавязкаў, члены праўленьня адказваюць салідарна ўсей сваею маемасьцю. Па справах, даручаных агульным сходам выключна аднаму з членаў праўленьня, іншыя члены праўленьня не нясуць адказнасьці, калі яны ня мелі магчымасьці перасьцерагчы ад страт.

§ 54. Члены праўленьня выбіраюцца з ліку членаў т-ва агульным сходам у колькасьці ня меней трох, тэрмінам на адзін год. Да іх выбіраецца ня меней двух кандыдатаў для часовага замяшчэньня адсутных або выбыўшых членаў праўленьня.

§ 55. У склад праўленьня і рэвізійнай камісіі ня могуць увахадзіць аднач асова асобы, знаходзячыяся паміж сабой у сваяцтве да другой ступені ўключна.

§ 56. Праўленьне выбірае з свайго складу старшыню праўленьня і яго намесьніка і разьмяркоўвае паміж сваімі членамі абавязкі.

§ 57. Калі вядзеньне рахункаводзтва будзе даручана аднаму з членаў праўленьня, то абавязкі рахункавода ня могуць быць злучаны з абавязкамі скарбніка. Апроч таго, скарбнік таварыства ня мае права аднач асова загадваць якой-небудзь другой грашовай касай.

§ 58. Праўленьне зьбіраецца на паседжаньні па меры патрэбы, але ня меней аднаго разу ў месяц. Аб часе (дзень і гадзіна) паседжаньняў павінна быць вывешана абвестка ў памяшканьні праўленьня.

§ 59. Паседжаньні праўленьня прызнаюцца адбыўшыміся, калі на іх прысутнічаюць тры члены праўленьня, у тым ліку старшыня або яго намесьнік.

§ 60. У выпадку хваробы або адсутнасьці члена праўленьня, месца яго займае кандыдат, атрымаўшы найбольшы лік выбіральных галасоў.

§ 61. Справы праўленьня вырашаюцца простай большасьцю галасоў: голас старшыні дае перавагу. Пастановы праўленьня запісваюцца ў кнігу і падпісваюцца прысутнымі членамі. Нязгоднаму з пастановаю большасьці члену праўленьня даецца права ўнесьці асобную думку і ў такім выпадку ён пазбаўляецца ад адказнасьці.

§ 62. Агульны сход можа назначыць членам праўленьня пэўную ўзнагароду за працу.

§ 63. Скаргі на праўленьне прыносяцца агульнаму сходу.

§ 64. Член праўленьня можа быць выдален ад пасады і да сканчэньня тэрміну выбраньня па пастанове агульнага сходу.

## В. Рэвізійная Камісія.

§ 65. Для праверкі справаздачнасьці гатовых сум і складаў, для рэвізіі дзейнасьці праўленьня агульным сходам членаў або сходам упаўнаважаных выбіраецца рэвізійная камісія ў складзе ня меней 3-х асоб і 3-х кандыдатаў да іх.

§ 66. Выбіраньне членаў рэвізійнай камісіі праводзіца простай большасьцю з ліку членаў, не належачых да складу праўленьня.

§ 67. Ревізійная Камісія зьбіраецца па меры патрэбы, але ня меней аднаго разу ў працягу 3-х месяцаў, вядзе падрабязныя запісы аб сваёй рабоце і заўважаных недаліках у асобнай кнізе, мае права рабіць паказаньні праўленьню аб яго няправільных дзеяньнях.

§ 68. Рэвізійная Камісія аб выніках свае работы паведамляе агульнаму сходу членаў або сходу ўпаўнаважаных.

§ 69. Усе спрэчкі па справах т-ва паміж яго членамі або паміж апошнімі і праўленьнем вырашаюцца або на агульных сходах членаў т-ва або на сходах ўпаўнаважаных.

## V. РАХУНКАВОДЗТВА І СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ ТАВАРЫСТВА.

§ 70. У таварыстве абавязкова вядуцца:

а) прыбыткова-выдатковыя кнігі па ўсіх грашовых зваротах і опэрацыях т-ва і наліччы касы;

б) рабочы дзеньнік з паказаньнем зробленых работ і адзнакай аб долі ўдзелу ў іх членаў;

в) інвэнтарны опіс маемасьці;

г) таварная ведамасьць матар'ялаў і продуктаў, паступаючых на склад і выдаваемых са складу;

д) рахункі т-ва з рознымі асобамі і ўстановамі;

е) іменны сьпіс удзельнікаў т-ва з паказаньнем разьлікаў з кожным з іх;

ж) кнігі зробленых мэліорацый.

§ 71. Справаздачны год т-ва лічыцца з 1-га студзеня па 31-ае сьнежня; калі т-ва адчыніла сваю работу ў сярэдзіне году, то справаздачны год лічыцца з часу адчыненьня на 31-ае сьнежня бягучага году.

§ 72. Праўленьне павінна не пазьней 2-х месяцаў па сканчэньні справаздачнага году склікаць агульны агульны сход і падаць на зацьверджаньне яго гадовую справаздачу. Справаздача павінна заключаць у сабе неабходныя данныя аб дзейнасьці т-ва і ў прыватнасьці: рахунак капіталу асноўнага, запаснага і спэцыяльных, рахунак прыбыткаў і страт, балянс і паказаньні на перамены ў складзе членаў т-ва.

§ 73. Да прадстаўленьня агульнаму сходу, справаздача разам з кнігамі і дакумэнтамі правяраецца рэвізійнай Камісіяй, якая выкладае свае заключэньні аб ей на самой справаздачы за сваім подпісам. Заключэньні гэтыя дакладваюцца агульнаму сходу.

§ 74. У выпадку нескладаньня праўленьнем гадовае справаздачы ў паказаны тэрмін, рэвізійная камісія павінна даручыць складаньне яе пад сваім наглядам другім асобам за рахунак членаў праўленьня.

§ 75. З выведзенага па справаздачы чыстага прыбытку адлічаецца ня меней 20 проц. у запасны капітал і 50 проц у асноўны капітал т-ва, рэшта прыбытку разьмяркоўваецца па ўгляду агульнага сходу:

а) на ўтварэньне або папаўненьне іншых капіталаў т-ва;

б) на выдачу дадатковае ўзнагароды за працу;

в) на коопэратыўныя і агульнакарысныя мэты.

§ 76. Выявіўшаяся па зваротах т-ва страта пакрываецца з запаснага капіталу, а ў выпадку яго нястачы—з асноўнага капіталу. Але агульны сход можа, не чапаючы асноўнага капіталу, разьмеркаваць нехватаючую суму паміж усімі членамі ў межах адказнасьці кожнага з іх (§ 21) і вызначыць тэрмін для выплаты кожным сваё долі, у выпадку нявыплаты праўленьне зьвяртае ў выплату належачы неплацельшчыку пай, які ў такім выпадку павінен быць адноўлен у паказаны тэрмін, а недахват сысквaецца з яго, што не магло быць сыскана ў працягу вызначанага тэрміну з аднаго члена, раз'мяркоўваецца на ўсіх астатніх. Такая раскладка гадовых страт ня спыняе і не памяншае дадатковай адказнасьці членаў па абавязацельствах таварыства пры яго ліквідацыі, згодна § 77 Статуту.

## VI. ПАРАДАК ЗАЧЫНЕНЬНЯ ТАВАРЫСТВА І ЛІКВІДАЦЫЯ СПРАЎ.

§ 77. Таварыства лічыцца спыніўшым сваё існаваньне:

1) калі ў гадовы тэрмін з дню рэгістрацыі статуту яно ня прыступіць да выкананьня мэліорацыйных работ бяз уважлівых прычын,

2) па пастанове агульнага сходу аб ліквідацыі т-ва.

У тым і другім выпадку т-ва не пазбаўляецца ад пагашэньня ўсіх прынятых на сябе абавязацельстваў, як у адносінах да дзяржаўных органаў, так і да прыватных асоб, у першым выпадку зямельныя вучасткі, адведзеныя дадаткова звыш нормы зямельнага надзелу, паступаюць у агульнадзяржаўны фонд, у другім выпадку: а) калі работы па мэліорацыі вучастку закончаны, распрацаваныя плошчы застаюцца цалкам у карыстаньні членаў ліквідуемага т-ва ў парадку працоўнага землякарыстаньня, б) калі выканана толькі частка намечаных плянаў мэліорацыйных работ, то пытаньне далейшага выкарыстаньня вучасткаў вырашаецца акруговай зямельнай камісіяй.

§ 78. У выпадку спыненьня дзейнасьці т-ва агульны сход асобнаю пастановай вызначае парадак ліквідацыі спраў т-ва.

§ 79. Пастанова агульнага сходу аб назначэньні ліквідацыі паведамляецца ўстанове, у якой зарэгістраван статут т-ва, і публікуецца ў аднэй з мясцовых газэт.

§ 80. Ліквідацыя спраў т-ва праводзіцца членамі праўленьня, калі па пастанове агульнага сходу яна ня будзе ўскладзена на другіх асоб. Лік ліквідатараў павінен быць ня меней трох.

§ 81. Ліквідатары падлягаюць агульным правілам, устаноўленым для членаў праўленьня і на тэй-жа аснове нясуць адказнасьць за зробленыя страты т-ву, а таксама падлягаюць контролю рэвізійнай камісіі.

§ 82. Ліквідатары выконваюць абавязацельствы т-ва, этрымліваюць і сысквають па яго патрабаваньнях і распрадаюць належачую т-ву маемасьць; уступаць у новыя абавязацельствы ліквідатары могуць толькі ў тым выпадку калі права на гэта дадзена ім агульным сходам.

§ 83. Калі маемасьць т-ва будзе невыстарчаючай для пакрыцьця ўсіх абавязацельстваў яго, то складаецца разьлік з паказаньнем

сумы, якую кожны член т-ва ў межах свае адказнасьці (§ 21) павінен унесьці на ўплату даўгоў т-ва.

§ 84. Зварот паёў членам т-ва можа быць зроблен не раней пагашэньня даўгоў т-ва. Сумы неабходныя для задавальненьня па спрэчных даўгох, па каторых тэрміны яшчэ не падышлі, адлічаюцца ліквідатарамі. За парушэньне правіл статуту ліквідатары адказваюць салідарна як перад таварыствам, так і перад крэдытарамі. Такая-ж адказнасьць ўскладаецца і на членаў рэвізійнай камісіі, калі, выявіўшы парушэньне, яны не заявяць аб тым ў пісьмовай форме.

§ 85. Па сканчэньні ліквідацыі, ліквідатары складаюць справоздачу аб сваіх дзеяньнях, каторая прадстаўляецца на зацьверджаньне агульнага сходу з заключэньнем рэвізійнай камісіі. Па зацьверджаньні справаздачы аб сканчэньні ліквідацыі паведамляецца тэй установе, у каторай статут т-ва быў зарэгістраван; туды і накіроўваюцца таксама кнігі, справы і дакумэнты т-ва і ліквідацыйнай камісіі.

§ 86. Па выплаце даўгоў т-ва і па звароце паёў, ліквідатары зварочваюць застаўшуюся маемасьць т-ва на коопэратыўныя або грамадзкія патрэбы па паказаньню ліквідацыйнага агульнага сходу.

Задладчыкі мэліорацыйнага таварыства

1 ..............................................

2 ..............................................

3 ..............................................

4 ..............................................

5 ..............................................

---

Дадатак

**Форма пратаколу пры організацыі мэліорацыйнага таварыства.**

## ПРАТАКОЛ

агульнага сходу грамадзян вёскі ..............................

сельсавету .............................. раёну ..............................

.............................. акругі

.............................. месяца .............. дню 192   г.

З агульнага ліку ..............................

гаспадароў прысутнічае на сходзе .............. чалавек.

Старшыня сходу ..............................

Сэкратар ..............................

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| I. Аб арганізацыі мэліарацыйнага т-ва. | I. Арганізаваць Мэліарацыйнае Таварыства пад назвай ............ з раёнам дзейнасьці ............ і мэсцазнаходжаньнем праўленьня ............ для правядзеньня мэліарацыйных (гідро-і культуртэхнічных) работ на плошчы ў гэты час знаходзячайся ў нашым карыстаньні ............ і мяркуемай да адводу (з дзяржфонду, ляснога, лугфонду і інш) ............ гэктараў ў мэтах выкарыстаньня гэтае плошчы для зрабленьня штучнае (сенажаці, выгану і інш.). |
| II. Устанаўленьне ўступнага і паявога ўзносу і адказнасьці членаў. | II. Уступны ўзнос устанавіць ............ р. ............ к., паявы ўзнос устанавіць ............ р. ............ к. і ............ кратную адказнасьць членаў таварыства па абавязацельствах. |
| III. Выбары Праўленьня. | III. Выбраць Праўленьне з трох асоб. Выбранымі аказаліся ............ |
| IV. Выбары Рэвізійнай Камісіі. | IV. Выбраць Рэвізійную Камісію з ....... асоб. Выбранымі аказаліся ............ |
| V. Аб выбары закладчыкаў. | V. Выбраць пяць асоб; выбранымі аказаліся ............ якім даручыць падпісаць статут і весьці справу арганізацыі Таварыства і рэгістрацыю статуту. |

Подпісы прысутнічаўшых на сходзе гаспадароў (кожны член, уваходзячы ў склад арганізуемага таварыства павінен расьпісацца ў канцы пратаколу).

Уласнаручныя подпісы гр. ............
у ліку ............ чалавек ............ сельсавет сьведчыць.

Старшыня

(М. П.) Сэкратар

Дадатак

Пасямейна-маемасны сьпіс членаў Мэліорацыйнага Таварыства „Згода“ ............................ акругі ____________________ ____________________ районy.

| №№ па парадку | Імя, імя па бацьку і прозьвішча | Колькасьць едакоў | Колькасьць працаздол. | Воранай зямлі | Сенажаці | Выгану | Коней | Кароў | Валоў | Авец | Сьвіней | Плошча падлягаючая мэліорацыі (свая) | Плошча якая мяркуецца да атрыманьня для мэліорацыі з фонду | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | | | |

Дадатак

## Пералік неабходных дакумэнтаў для атрыманьня пазычак.

1) Пратакол агульнага сходу членаў таварыства аб жаданьні атрымаць мэліорацыйную пазычку з паказаньнем; а) яе разьмеру, б) на якія патрэбы, в) даручэньне Праўленьню Таварыства атрымаць яе і г) на які тэрмін

2) Заява ў Акруговае аддзяленьне с.-г. банку;

3) Плян работ і каштарыс, зацьверджаныя мэліорацыйнай часьцю АкрЗА з паказаньнем разьмеру, аб'ёму і кошту работ,

4) Заключэньне АкрЗА аб мэтазгоднасьці і неабходнасьці выдачы пазычкі.

5) Даверанасьць Упаўнаважанаму Праўленьня Таварыства на атрыманьне пазычкі.

Дадатак

## Пералік дакумэнтаў неабходных да прадстаўленьня пры рэгістрацыі мэліорацыйных таварystваў.

I. Пратакол агульнага сходу па ўзорнай форме, у якім павінна быць паказана: 1) колькасьць прысутнічаўшых на сходзе гаспадароў

з агульнае колькасьці гаспадароў, якім належыць мяркуемы да мэліарацыі вучастак, імя, імя па бацьку і прозьвішча; 2) мэта арганізацыі таварыства; 3) плошча вучастку мяркуемага да мэліярацыі, паасобна знаходзячайся ў фактычным карыстаньні гаспадароў і мяркуемай да атрыманьня з фонду; 4) найменьне таварыства; 5) район дзейнасьці таварыства; 6) месца знаходжаньня праўленьня; 7) разьмер паявога і ўступнага ўзносаў; 8) кратнай адказнасьці; 9) імя, імя па бацьку і прозьвішча трох членаў праўленьня; 10) таксама пяці членаў Рэвізійнай Камісіі, 11) таксама пяці закладчыкаў таварыства з поўнамоцтвам на падпісаньне статуту і вядзеньне справы па рэгістрацыі.

*Увага.* Пратакол агульнага сходу падпісваецца ўсімі прысутнымі і іх подпісы сьведчацца мясцовай уладай.

II. Тры экзэмпляры статуту, падпісаныя выбарнымі закладчыкамі, а іх подпісы на статутах павінны быць пасьведчаны мясцовай уладай.

III. Заява аб рэгістрацыі статуту з паказаньнем паштовага адрасу асобы, якой даручана весьці рэгістрацыю статуту, падпісанае тымі-ж закладчыкамі што і статут, з засьведчаньнем іх подпісаў мясцовай уладай.

IV. Сьпіс—імя, імя па бацьку і прозьвішча—членаў Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі.

V. Пасямейна-маемасны сьпіс членаў таварыства з паказаньнем імя, імя па бацьку і прозьвішча, колькасьці едакоў, працаздольных, колькасьці воранай зямлі, сенажаці, коней, кароў, валоў, авец, сьвіней, плошчы ўгодзьдзяў, падлягаючых мэліорацыі і знаходзячыхся ў юрыдычным карыстаньні кожнага члена, плошча мяркуемая да атрыманьня кожным членам з запаснага фонду.

VI. Спраўка ад РВК аб тым, што ўпаўнаважаныя на падпісаньне статуту не пазбаўлены грамадзянскіх праў.

---

Дадатак.

## Прыкладны ўзор заявы.

У Аршанскі Акругговы Зямельны Аддзел.

Закладчыкаў Талачынскага Мэліорацыйнага Таварыства „Згода“ Талачынскага району ..........
сельсавету вёскі ..........
1) Пятра Іванавіча Антонава,
2) Язэпа Якавіча Апановіча,
3) Самуіла Якавіча Лейзіка,
4) Карпа Іванавіча Бітуса і
5) Станіслава Казіміравіча Пшэбышэўскага.

## ЗАЯВА.

Далучаючы да гэтага:
1) тры экз. статуту мэліорацыйнага таварыства „Згода“,
2) тры экз. пратаколу агульнага сходу,
3) тры экз. сьпісу членаў Праўленьня і Рэвізійнай Камісіі,
4) тры экз. пасямейна-маемаснага сьпісу членаў таварыства і

5) тры экз. спраўкі Райён. Выкан. Камітэту аб непадсуднасьці ўпаўнаважаных,

просім статут зьцьвердзіць і ўпісаць у рэгістрацыйны рэестр. На падачу гэтае заявы і атрыманьне зарэгістраванага статуту ўпаважваем гр. Пятра Іванавіча Антонава, маючага месца пражываньня ў гор. Воршы, па Савецкай вул. ў доме № 5, кв. 2, па адрасу якога просім накіроўваць паперы для нас.

25-га сьнежаня 1925 г.

Закладчыкі Таварыства (5 подпісаў).

Уласнаручныя подпісы памянёных пяці грамадзян вёскі ________ ________ Талачынскага райёну ________ сельсавет подпісам з прыкладам пячаткі сьведчыць.

Старшыня Сельсавету

(М. П.) Сэкратар

Дадатак

---

Выдана ў парадку арт. 14 Палажэньня аб Таварыствах.

## Інструкцыя аб парадку організацыі мэліорацыйных таварыстваў.

§ 1. Організацыя мэліорацыйных таварыстваў ляжыць на мэліорацыйнай часьці акруговага зямельнага аддзелу.

§ 2. Сяленьні і грамады, жадаючыя ўтварыць мэліорацыйнае таварыства, падаюць аб гэтым заяву ў мэліорацыйную часьць АкрЗА з прыкладам наступных дакумэнтаў:

I. Пратакол агульнага сходу ў трох экзэмплярах, у каторым паказваецца: а) колькасьць гаспадароў прысутнічаўшых на сходзе з пералікам па імені, імені па бацьку і прозьвішчу кожнага, б) агульная колькасьць гаспадароў, якім належыць мяркуемы да мэліорацыі вучастак (лічбай), в) мэта організацыі таварыства, г) найменьне таварыства, д) райён дзейнасьці таварыства, е) плошча, у паасобнасьці знаходзячаяся ў юрыдычным карыстаньні грамадзян і мяркуемая да атрыманьня з фонду, ж) месца знаходжаньня праўленьня, з) разьмер паявога і ўступнага ўзносаў, і) кратнай адказнасьці, к) імя, імя па бацьку і прозьвішча трох членаў праўленьня, л) імя, імя па бацьку і прозьвішча ня меней трох членаў рэвізійнай камісіі, м) імя, імя па бацьку і прозьвішча пяці закладчыкаў таварыства з паўнамоцтвам на падпісаньне статуту і вядзеньне рэгістрацыі.

*Увага.* Пратакол агульнага сходу падпісваецца ўсімі удзельнікамі, а подпісы іх і пратакол сьведчацца мясцовай уладай.

II. Статут у трох экз., падпісаных пяцю выбарнымі закладчыкамі.

*Увага.* Подпісы закладчыкаў на ўсіх экзэмплярах статуту павінны быць засьведчаны Райён. Выкан. Камітэтам.

III. Заява аб рэгістрацыі статуту з паказаньнем паштовага адрасу асобы, якой даручана весьці рэгістрацыю статуту, падпісаная тымі-ж закладчыкамі, што і статут, з засьведчаньнем іх подпісаў на заяве мясцовай уладай.

IV. Сьпіс—імя, імя па бацьку і прозьвішча—членаў праўленьня і рэвізійнай камісіі.

V. Пасямейна-маемасны сьпіс усіх членаў таварыства з паказаньнем аб кожным члене імя, імя па бацьку і прозьвішча, колькасьці едакоў, працаздольных членаў сям'і, колькасьці воранае зямлі, сенажацяй, выгану, коней, кароў, валоў, авец, сьвіней, плошчы падлягаючай мэліорацыі і знаходзячайся ў юрыдычным карыстаньні членаў, плошчы, мяркуемай да атрыманьня з зямельнага фонду.

VI. Заключэньне Райён. Вык. Камітэту аб грамадзянскай праваможнасьці ўпаўнаважаных на падпісаньне статуту.

Акруговы Зямельны Аддзел па атрыманьні заявы ад грамадзян, жадаючых організаваць мэліорацыйнае таварыства, камандыруе на месца гідротэхніка або культуртэхніка для дасьледаваньня па форме № 2 і складаньня заключэньня аб мэтазгоднасьці і жыцьцёвасьці мяркуемых мэліорацый і тэхнічнай магчымасьці выкананьня іх у цяперашні мамэнт. Гэтаму-ж тэхніку даручаецца і далейшае вядзеньне справы да аканчальнага яго вырашэньня.

Пры дасьледаваньні Таварыства тэхнікам прымаецца пад увагу ня толькі фармальны бок справы, але і гаспадарчая неабходнасьць даннай мэліорацыі, зацікаўленасьць усяго насяленьня, магчымасьць правядзеньня работ сіламі і сродкамі Таварыства, месца, дзе організуецца Таварыства, г.-ё. на масыве, дзе падрыхтован або падрыхтоўваецца водапрыёмнік, але ня ўсе насяленьне організавана ў Таварыства або ўзьнікаючае таварыства знаходзіцца на новым балотным масыве, дзе водапрыёмнік не падрыхтован і падрыхтоўка яго пакуль да вытворчасьці не намечана.

У першым выпадку (мэта ахвату) прымаюцца ўсе меры да скарэйшай організацыі, у другім—часова адкладваецца.

Наогул, камандыруемы для дасьледваньня тэхнік павінен падыйсьці да пытаньня па сутнасьці і ў сваім заключэньні даць усебаковую ацэнку ўзьнікаючаму аб'яднаньню, бо гэта заключэньне і паслужыць у далейшым асноваю пры зацьверджаньні.

Калі будзе сабран увесь неабходны матар'ял і дакумэнты аб Таварыстве, тэхнік з сваім заключэньнем прадстаўляе ў АкрЗА. АкрЗА ў працягу 15-ці дзён з дню атрыманьня павінен прадстаўлены матар'ял разглядзець і даць адказ у пісьмовай форме аб зацьверджаньні або адказе. У апошнім выпадку з матывамі адказу.

*Увага.* Уся справа прадстаўляецца ў АкрЗА ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін экзэмп. застаецца ў АкрЗА, другі выдаецца Таварыству на рукі, а трэці прадстаўляецца ў Кіраўмэліозем НКЗ БССР.

Пасьля зацьверджаньня Таварыства АкрЗА з упісаньнем яго ў асобны рэестр, Таварыства набывае права юрыдычнай асобы.

---

## Циркуляр Высшего Совета Народного Хозяйства БССР

### О ЗАПРЕЩЕНИИ ВЫДАЧИ РАБОЧИМ И СЛУЖАЩИМ ПРЕДМЕТОВ ПРОИЗВОДСТВА БЕСПЛАТНО И ПО СЕБЕСТОИМОСТИ.

*Всем Трестам и Хоз'единицам ВСНХ БССР.*

Замечается, что некоторые тресты производят выдачи своим рабочим и служащим предметов своего производства или бесплатно

